# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

## *BYELORUSSIAN THOUGHT*

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСАПІС


№ 1

КАСТРЫЧНІК 1960 Г.

НЬЮ-ЁРК — САУТ РЫВЭР

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

## *BYELORUSSIAN THOUGHT*

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСАПІС

Год выд. 1 КАСТРЫЧНІК 1960 г. Нр. 1

## АД РЭДАКЦЫІ

Беларуская палітычная эміграцыя, якая пасьля другое ўсясьветнае вайны пераехала з лягероў ДП у Нямеччыне на сталае жыцьцё ў ЗША, у першыя гады свайго асяленьня на вольнай зямлі Вашынгтона шмат увагі аддавала і друкаванаму слову. Варта ўспомніць хоць-бы такія выданьні, як: ратытарныя — "Беларус у Амэрыцы", "Беларускае Слова ў Амэрыцы", "Віці","Шыпшына"; друкаваныя — "Беларус", "Беларуская Трыбуна", "Беларускае Слова", "Конадні", "Запісы БІНіМ", "Веда" і ін., каб перакананцца ў гэтым. Аднак, усе вышэй названыя выданьні, пратрымаўшыся даўжэй ці карацей, спынілі сваё існаваньне. І цяпер, у апошнія два-тры гады, беларуская эміграцыя ў ЗША ня можа пахваліцца сваім друкам: яна амаль ня мае пэрыядычнага выданьня грамадзкага характару.

Ніхто ня будзе асправчаць, што адсутнасьць пэрыядычнага друку — зьява непажаданая і непажаданая. Каб хоць у невялікай меры прычыніцца да ліквідацыі гэтае прыкрае зьявы, група амэрыканцаў беларускага паходжаньня, працаўнікоў на грамадзкай беларускай ніве, на сваіх сходках дыскутавала справу аднаўленьня пэрыядычнага беларускага друку. У выніку гэтых дыскусіяў, у пачатку 1960 году арганізавалася Беларускае Выдавецкае Таварыства, якое не залежыць ні ад якое палітычнае партыі ці групы як з ідэялёгічнага, так і з матэрыяльнага (фінансавага) боку. Засноўваючы Беларускае Выдавецкае Таварыства, ініцыятыўная група ня ставіць сваёю мэтаю абмяжоўвацца тою ці іншаю колькасьцю сяброў: сябрам БВТ можа быць кожны дарослы беларус ці беларуска, сталыя жыхары ЗША, якія заплоцяць гадавую складку ў памеры 10 дал.

На першых сваіх сходках Беларускае Выдавецкае Таварыства вырашыла выдаваць грамадзка-палітычны і літаратурна-мастацкі часапіс "Беларуская Думка". Першы нумар яго БВТ і прапануе чытачу.

Звычайна, кожны новы часапіс ці газэта, у першым нумары інфармуе чытачоў аб сваіх мэтах і заданьнях, акрэсьлівае сваю пляцформу. Свае мэты і заданьні мае і наш часапіс. Выказаць іх коратка можна словамі: служыць Беларускаму Народу, беларускай нацыянальна-вызвольнай ідэі і справе дэмакратыі. Заданьне нялёгкае, і выканаць яго наш часапіс зможа толькі тады, калі ўсе сьведамыя Беларусы памогуць нам. Помач гэтая можа быць у выглядзе артыкулаў аб беларускіх праблемах, аб жыцьці беларусаў на эміграцыі і на Бацькаўшчыне і аб усім, што можа цікавіць беларусаў і тых чужынцаў, якія цікавяцца беларускімі праблемамі. Гэтая помач можа быць таксама ў выглядзе прапановаў, заўвагаў і здаровай крытыкі, накіраваных на палепшаньне працы часапісу. А хто ня можа памагчы нам у вышэй азначаны спосаб, няхай паможа фінансава: або ўступіўшы ў сябры Беларускага Выдавецкага Таварыства, або прысылаючы падпіску ці грашовую ахвяру на часапіс.

Рэдакцыя

# ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

(Ад 17 да 24 ліпеня 1960 г.)

Згодна з рэзалюцыяй Нр. 111 Сэнату і рэзалюцыяй Нр.459 Палаты Рэпрэзэнтантаў у Вашынгтоне з 1959 г.,заклікаючай Прэзыдэнта ЗШПАмэрыкі штогод праклямаваць Тыдзень Паняволеных Народаў аж да часу, пакуль вольнасьць і незалежнасьць ня будзе асягнута для ўсіх паняволеных народаў сьвету, - сёлета Прэзыдэнт Айзэнгаўэр выдаў сваю Праклямацыю ў гэтай справе.

## PROCLAMATION
## of Captive Nations Week, 1960 by The President of The United States

WHEREAS many nations throughout the world have been made captive by the imperialistic and aggressive policies of Soviet communism; and

WHEREAS the peoples of the Soviet-dominated nations have been deprived of their national independence and their individual liberties; and

WHEREAS the citizens of the United States are linked by bonds of family and principle to those who love freedom and justice on every continent; and

WHEREAS it is appropriate and proper to manifest to the peoples of the captive nations the support of the Government and the people of the United States of America for their just aspirations for freedom and national independence; and

WHEREAS by a joint resolution approved July 17, 1959, the Congress has authorized and requested the President of the United States of America to issue a proclamation designating the third week in July, 1960, as "Captive Nations Week", and to issue a similar proclamation each year until such time as freedom and independence shall have been achieved for all the captive nations of the world:

NOW, THEREFORE, I, DWIGHT D. EISENHOWER, President of the United States of America, do hereby designate the week beginning July 17, 1960, as Captive Nations Week. I invite the people of the United States to observe such a week with appropriate ceremonies and activities, and I urge them to study the plight of the Soviet-dominated nations and to recommit themselves to the support of the just aspirations of the peoples of those captive nations.

IN WITNESS WHEREOF, I have hereunto set my hand and caused the Seal of the United States of America to be affixed.

DONE at the City of Washington this eighteenth day of July in the year of our Lord nineteen hundred and sixty, and of the Independence of the United States the one hundred and eighty-fifth.

DWIGHT D. EISENHOWER

У Вашынгтоне паўстаў агульна-амэрыканскі камітэт па абходзе Тыдня Паняволеных Народаў, які паклікаў адпаведныя камітэты ў паасобных штатах. У выніку дзейнасьці гэтых камітэтаў у шэрагу штатаў, у большых гарадох і там, дзе пражываюць большыя колькасьці амэрыканцаў, паходзячых з краін з-за жалезнай заслоны, — адбыліся абходы, прысвячаныя справе вызваленьня. Губэрнатары шэрагу штатаў і мэры многіх гарадоў выдалі свае праклямацыі з гэтай нагоды. Адбыліся багаслужэньні ў пратэстанцкіх, рыма-каталіцкіх, праваслаўных і інш. сьвятынях, масавыя мітынгі і маніфэстацыі з прыйммом адпаведных рэзалюцыяў, адзначаючыя патрэбу вызваленьня і пратэстуючыя супроць камуністычнай няволі.

Амэрыканскія арганізацыі розных нацыянальнасьцяў шырака падтрымлівалі гэтую акцыю. Амэрыканскія газэты, часапісы і радыёперадачы прысьвяцілі мейсца і час гэтай справе на працягу праклямаванага тыдня.



# БАЛЬШАВІЗМ І ПЫТАНЬНЕ БЕЛАРУСКАИ ДЗЯРЖАУНАСЬЦІ

Год таму назад, з нагоды 40-ых угодкаў БССР, бальшавіцкая прапагандная машына, груба хвальшуючы гісторыю й яшчэ грубей зьдзекуючыся над рэчаіснасьцю сучаснасьці, старалася "даказаць", што беларускі народ за ўвесь час свайго гістарычнага бытаваньня толькі цяпер у пяршыню мае сваю дзяржаўнасьць і што ён заўдзячвае яе нікому іншаму, як толькі й вылучна камуністычнай партыі ды... расійскаму народу.

Аб выразнай абсурдальнасьці й тэндэнцыйнасьці гэтага бальшавіцкага "адкрыцьця" гаварыць ня прыходзіцца. Вонкі Савецкага Саюзу нават дзіцяці пачатковае школы ведама, што беларускі народ жыў незалежным палітычным жыцьцём ў пэрыядзе ўдзельных княстваў ужо ў X—XIII ст., у пэрыядзе з'адзіночанага гаспадарства ў XIII—XVII ст. ды аднавіў сваю дзяржаўнасьць, пасьля расійскага паняволеньня, у 1918 г., каб быць пазбаўленым яе ізноў перавагаю фізычнае сілы расійскага бальшавізму.

На маргінэсе прыпадаючых у сакавіку г.г. 42-іх угодкаў аднаўленьня беларускім народам свае дзяржаўнасьці, варта крыху затрымацца над істотным зьместам бальшавіцкае палітыкі ў пытаньні дзяржаўнасьці паняволеных нерасійскіх народаў наагул, а беларускага ў прыватнасьці, і разгледзець гэты зьмест у сьвятле й на аснове бальшавіцкіх дакумантаў і фактаў. Варта над гэтым пытаньнем затрымацца яшчэ й з тае прычыны, што працягваючы, толькі больш пэрфідна, царскую палітыку тэрытарыяльнай, эканамічнай і культурнай экспансыі, бальшавіцкі Крэмль, у адрозьненьне ад царскага Петраграду, у сваім імкненьні да ўсясьветнай гэґэмоніі, нацыянальнаму пытаньню надае вялікае значэньне, як эфэктоўнаму сродку ў пэнэтрацыі збудзіўшыхся да нацыянальна-палітычнага жыцьця народаў Азіі й Афрыкі. Упісаўшыся ў няпрошаныя абаронцы нацыянальна-палітычных правоў гэтых народаў, ладжаньнем тэатральных сьвяткаваньняў юбілеяў незалежнасьці нерасійскіх рэспублікаў СССР, прапагандаю маною "справядлівага йгуманнага" разьвязаньня нацыянальнага пытаньня ў межах шматнацыянальнага Савецкага Саюзу, апошні можа спрычыніць аграмадныя шкоды справе міру й дэмакратыі ў сьвеце.

Вось-жа, як вядома, паводле тварцоў тэорэтычнага камунізму Маркса й Энгельса, вырашальным дзейнікам у людзкім жыцьці зьяўляецца эканамічны фактар. Нацыянальнае пытаньне, на суму каторага складаецца народная мова, культура, псыхіка, народныя звычаі й абычаі, гэта — рэлятыўная й менш важная надбудоўка над рэальнаю эканамічнаю базаю, створаная ў вялікай меры штучна пануючымі клясамі з мэтаю эксплёатацыі апошнімі пралетарыяту. У пралетарыяту няма й ня можа быць бацькаўшыны; яго, апрача эканамічнага фактару, нічога ня можа вязаць із краінаю ягонага месцазнаходжаньня; і ён павінен імкнуцца да палепшаньня свайго палажэньня шляхам стварэньня бясклясавага грамадзтва ўнівэрсальнага характару, з адзінай бясклясавай культурай і мовайі. Пралетарыят, які Маркс і Энгельс атсесамляюць із паняцьцем народу, ствараецца ў выніку капіталістычнай стадыі разьвіцьця грамадзтва. Малыя народы, паводле Маркса і Энгельса, ня ўстане асягнуць гэтай капіталістычнай стадыі разьвіцьця й гэтым самым стварыць моцны пралетарыят. Дзеля гэтага, яны катэгарычна супраць малых дзяржаўных арганізмаў.

Падобнага погляду на нацыянальнае пытаньне й праблему дзяржаўнасьці малых народаў быў і Ленін, тварэц сучаснага бальшавізму. "Зцэнтралізаваная буйная дзяржава, — казаў Ленін: — зьяўляецца вялікім гістарычным крокам наперад ад сярэднявековай раздробленасьці да будучага сацыялістычнага адзінства ўсяго сьвету". (Ленин = Соч., т. XVII, 1929 г., бач. 154). Розьніца паміж Марксам - Энгельсам і Ленінам была толькі ў тым, што, будучы ў сваім нутры расійскім вялікадзяржаўнікам, Ленін трактаваў рэвалюцыйныя плыні з пэрспэктывы гледзішча расейскага інтарэсу й бачыў будучыню бясклясавага ўнівэрсальнага грамадзтва пад расійскай эгідай, з "бясклясавай" расійскай культурай і мовай, тады, калі першыя схіляліся ў бок францускі ці нямецкі. Ленінская "філязофія" расійскай супрэмацыі была больш выразна выказана ягонымі спадкаемцамі й зафіксаваная для наступных пакаленьняў наступна: "У гістарычным руху людзкога грамадзтва на долю вялікага расійскага народу выпала роля вядучай нацыі, з імем каторай зьвязаны ўсе вырашальныя этапы ў гісторыі ўсясьветнае культуры". (Вопросы Истории Нр. 3, 1949 г., бач. 2). Вялікарасійскі патрыятызм у Леніна пасунуты быў да тае ступені, што на II зьезьдзе РСДРП у 1903 г. ён станоўка выступаў супраць раўнапраўя моваў, прызнаньня аўтаноміі народам царскае Расіі ды супраць праграмы акруговага самаўраду, кажучы, што "гэта вельмі няясна й можа быць тлумачана такім чынам, быццам сацыял-дэмакратыя імкнецца да падзелу ўсяго гаспадарства на дробныя акругі". (Ленин, Соч., том. XVII, бач. 92 - 95, 144 - 153).

Ленін быў добрым бяспрынцыпным стратэгам, элястычным у тактыцы, консэквэнтным і нягнуткім у пастаўленай мэце. Пасьля рэвалюцыі 1905 г. і абвешчаньня царскім урадам Толеранцыйнага Акту, пацягнуўшым за сабою ўзрост нацыянальна-вызвольных рухаў паняволеных народаў, Ленін быў змушаны зьмяніць рэвалюцыйную тактыку і, у сваім імкненьні да перавароту ў Расіі, побач слабога расій-

 



скага пралетарыяту, абаперціся на сялянства ды нацыянальна-вызвольныя рухі нерасійскіх народаў царскай імпэрыі.

Сутнасьць ленінскае тактыкі ў дачыненьні да сялянства й нерасійскіх народаў заключалася ў: 1. дэмагогіі; 2. прызнаньні макіявелізму за галоўны мэтад дзеяньня: "маральна й добра ўсё, што карысна пралетарскай барацьбе клясаў"; 3. застасаваньне прапаганды з лёзунгамі, блізкімі да настрояў масаў, улучна з граньнем на людзкіх інстынктах і г. д. У выніку практычнага застасаваньня новай тактыкі, падчас лютаўскай, а пасьля і кастрычніцкай рэвалюцыяў 1917 г. нарадзіліся клічы, як: "Грабь награбленое!", "Война дворцам, мир хижинам!", "Земля крестьянам, фабрики рабочим!" і г. д. У адносінах да нерасійскіх народаў, пад націскам нацыянальна-вызвольных рухаў апошніх, 15 лістапада 1917 г. Ленінам абвяшчаецца г. зв. "Дэклярацыя Правоў Народаў Расіі" з гіранічнай тэзай-клічам: "самоопределение вплоть до отделения".

Што ў рэчаіснасьці Ленін думаў аб "отделении", гавораць наступныя цытаты з ягоных-жа ўласных асьветчаньняў, выказаныя для супакаеньня расійскіх камуністых: " Вы баіцеся словаў. Няма чаго іх баяцца. Усяроўна ўсе зраджваюць тайком, подла ў горшы бок". "Наагул мы супраць аддзяленьня, але мы стаім за права на аддзяленьне..." (Ленинкий Сборник III, 1925 г,, бач. 471 - 473). І далей: "... аддзяленьне зусім ня наш плян..." (Там-жа, бб. 472-473). Яшчэ выразьней выказаўся на гэтую тэму Сталін, тагочасны камісар для нацыянальных спраў, заявіўшы на VII канфэрэнцыі РКП(б) у красавіку 1918 г. наступнае: "...прызнаючы за прыгнечанымі народамі права на аддзяленьне, права вырашаць свой палітычны лёс, мы ня вырашаем гэтым самым пытаньня аб тым, ці павінны ў дадзены мамэнт аддзяліцца такія нацыі ад расійскай дзяржавы. Я магу прызнаць за нацыяй права аддзяліцца, але гэта не абазначае, што я гэта зраблю..." (Марксизм и национально-колониальный вопрос, бб. 47-48).

Якая была мэта, г. зв. дэкляярацыі? На гэтае пытаньне Ленін адказвае: "Прапаганда аб праве на самавызначэньне народаў справа вельмі важная ў барацьбе супраць заразы нацыяналізму ўва ўсіх ягоных формах..." (Lenin: "The Cadets and the Right of Peoples to Selfdetermination", б.14) Тое самае, толькі іншымі словамі, сьцьвярджае й супрацоўнік Леніна Томскі на VIII канфэрэнцыі РКП(б) у 1919 г., кажучы: "Спантанічная нацыянальная сьведамасьць — гэта козыр у руках буржуазіі. Пабіць яго можна толькі дэклярацыяй аб поўным нацыянальным аддзяленьні..." ("Протоколы с'ездов и конференций ВКП (б)", 1932 г., бач. 183).

Як бачым, у вачох павадыроў бальшавізму, як у ігракоў у карты, дэклярацыя была толькі тактычным ходам, і ейная вартасьць у рэальным аспэкце не перавышала той паперы, на якой яна была апублікавана. Кліч аб самавызначэньні ўлучна да аддзяленьня быў кінуты бальшавікамі не з матываў сапраўднага прызнаньня нацыянальна-палітычных правоў гэтых народаў, але з патрэбы змаганьня з вызвольнымі рухамі нерасійскіх народаў за захаваньне суцэльнасьці й непадзельнасьці расійскай імпэрыі.

Бальшавікі, згодна навукі Маркса, згодна паглядам Леніна і ягоных супрацоўнікаў, у прынцыпе ніколі й ня сьнілі аб тым, каб прызнаць права паняволеных народаў расійскай імпэрыі на незалежнае палітычнае існаваньне, а аб аддзяленьні ў практычным сэнсе й мовы не дапушчалі. Калі й дайшло да рэалізацыі, у аспэкце юрыдычным, дзяржаўнасьці гэтых народаў, дык ня дзеля таго, што гэта было ў пляне бальшавікоў, а толькі й вылучна дзеля таго, што абставіны прымусілі іх да гэтага. Гэтымі абствінамі ў першую чаргу было праклямаваньне свае незалежнасьці самімі нерасійскімі народамі й змаганьне за ўтрыманьне гэтай незалежнасьці. Калі ходзіць пра Беларусь, дык гэта выразна прызнае В. Кнорын (першы сакратар кам. партыі ў БССР у 1923 - 1924 г. г.), пішучы: "Пэрыяд нямецкай акупацыі зьяўляўся пэрыядам успрыйманьня масамі ідэі беларускае незалежнасьці, на што партыя мусіла зьвярнуць сваю ўвагу. Пытаньні незалежнасьці, пытаньні арганізацыі Беларускай Рэспублікі ад гэтай пары пачынаюць адыгрываць у партыі ўсё большую ролю". (В. Кнорын — "Камуністычная партыя на Беларусі", 1924 г., б. 219).

Гэтак, на аснове савецкіх-жа дадзеных, выглядала бальшавіцкая тэорыя ў пытаньні дзяржаўнасьці паняволеных народаў расійскай імпэрыі.

Калі ходзіць пра пытаньне нацыянальна-палітычнай незалежнасьці беларускага народу, то адносіны бальшавізму да гэтае праблемы былі яшчэ больш нэгатыўнымі, чым да аналёгічнага пытаньня іншых нерасійскіх народаў. Гэта можна тлумачыць двумя прычынамі. Па-першае: адноснаю спозьненасьцю нацыянальна-палітычнага ўсьведамленьня і, па-другое й шмат важнейшае: практычнаю адсутнасьцю камуністычнага руху ў беларускім народзе.

Беларусь, як вядома, зьяўляецца аграрнай краінай. Беларускі народ у сваёй масе складаецца із сялян, тыповаю рысаю, характару каторых ёсьць прывязаньне да прыватнай уласнасьці, да звычаяў сваіх бацькоў, дзядоў, прадзедаў, да свайго краю й матчынай мовы. Псыхічная структура беларуса ёсьць дыямэтральна адваротнай ідэалёгіі камунізму. Нічога дзіўнага, дзеля гэтага, што падчас расійскай рэвалюцыі камуністычная партыя, калі ходзіць пра аўтахтоннае насельніцтва, практычна на Беларусі не існавала. Нешматлікія сябры гэтай партыі на Беларусі рэкрутаваліся амаль вылучна з небеларускага элементу сьціплага гарадзкога пралетарыяту, раз'агітаванага спэцыяльна дэлегаванымі з цэнтральнае Расіі камуністычнымі эмісарамі. Гэта пацьвярджае нават



афіцыйны назоў партыі. Яна не называлася тады Беларускай Камуністычнай Партыяй, ані нават Камуністычнай Партыяй Беларусі, а толькі паўночна-заходняй філіяй Расійскай Кам. Партыі. Заснаваньне яе не належыць беларусам, ані нават мясцовым небеларусам, а толькі, як падае сакратар Кам. Партыі Беларусі Гарбуноў, таварышам: М. В. Фрунзе, А. Ф Мясьнікову і Л. М. Кагановічу. Факт захопу ўлады ў Менску 15 лістапада 1917 г. бальшавікі ў ніякім выпадку не заўдзячвалі беларусам, а толькі й вылучна раз'агітаваным жаўнерскім масам расійскае арміі, а ў прыватнасьці 60-му палку сібірскіх стралкоў, адмыслова для гэтай мэты накіраваных бальшавікамі ў Менск. Наадварот, як падае той самы Гарбуноў, "савецкая ўлада на Беларусі ўстанавілася ў выніку жорсткае барацьбы з мясцовай нацыянал-буржуазіяй". ("Воссоединение белорусского народа в едином социалистическом госудрстве", 1948 г., б. 8).

Бяручы пад увагу стан камуністычнага руху на Беларусі ды тэорыю марксізму-бальшавізму ў нацыянальна-палітычным пытаньні, нічога дзіўнага, што кіраўніцтва камуністычнай партыі ў Маскве ня мела спэцыяльнага пляну апрычонага вырашэньня беларускае нацыянальна-палітычнае праблемы. Дакладней кажучы, яно яго мела. Ён, гэты плян, ішоў па думцы палітыкі царскай Расіі — далейшага трактаваньня Беларусі ў аспэктах юрыдычным і практычным як звычайнай правінцыі расійскай бальшвіцкай імпэрыі.

І толькі пад уплывам беларускага нацыянальна-палітычнага руху, ачольванага й кіраванага Радаю й Урадам Беларскае Народнае Рэспублікі, ды, успомненага вышэй і прызнанага самымі бальшавікамі, дынамічнага ўзросту нацыянальна-палітычнай сьведамасьці ў беларускіх масах, бальшавікі былі змушаны паддаць рэвізыі сваю дасюлешнюю палітыку ў адносінах да Беларусі. Няма патрэбы ўспамінаць аб тым, што гэтая рэвізыя датычыла толькі й вылучна юрыдычнага аспэкту беларускай нацыянальна-палітычнай праблемы, бо ў аспэкце практычным Беларусь, пад сучасным назовам БССР, — гэта нічога іншага, як тая самая правінцыя расійскай бальшавіцкай імпэрыі.

* * * * * *

# ДА ГІСТОРЫІ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ДАЧЫНЕНЬНЯЎ НА БЕЛАРУСІ

Ад Рэдакцыі.

Беларусь знаходзіцца на абшары, дзе ад пачатку гістарычнае эры крыжаваліся ўплывы заходняй і ўсходняй Эўропы, праз якія праходзілі ўплывы з паўночнай і паўдзённай Эўропы, а таксама і з блізкага ўсходу Азіі. Гэтыя ўплывы пакінулі свае сьляды на нацыянальным складзе насельніцтва, на яго духовым складзе, на рэлігійным і культурным жыцьці, ды не пакінулі без свайго ўзьдзейнічаньня ніякае важнейшае галіны жыцьця беларускага народу. Вывучэньне гэтых уплываў становіць важную справу для пазнаньня сучаснае беларускае праблемы ўва ўсёй ейнай складанасьці.

Асабліва важнае значэньне мае нацыянальны характар гэтых уплываў на насельніцтва Беларусі, на нацыянальны склад жыхарства Беларусі і на ўзаемадачыненьні паміж паасобнымі нацыянальнымі групамі ды іх дачыненьні да беларускае нацыянальна-вызвольнае справы.

З мэтай захаваньня для гісторыі першакрынічных матэрыялаў з галіны нацыянальнага пытаньня на Беларусі і запазнаньня шырэйшага агулу з гэтым пытаньнем, наш часапіс распачынае друкаваньне матэрыялаў, надсыланых непасрэднымі ўдзельнікамі або сьведкамі былых падзеяў. Рэдакцыя просіць усіх беларусаў добрае волі дапамагчы нам у гэтай працы, надсылаючы свае матэрыялы з цікавячай галіны.

Намераную працу распачынаем друкаваньнем матэрыялу з беларуска-польскіх дачыненьняў падчас другое ўсясьветнае вайны. Публікаваныя тут матэрыялы зьяўляюцца вынікам дасьветчаньня аднае асобы і таму ня вычэрпваюць усяго абсягу закранутага пытаньня.

6

 

# ЛІДЗКАЯ АКРУГА ПАДЧАС НЯМЕЦКАЕ АКУПАЦЫІ 1941 — 1944 Г.

На Лідчыне, як і на ўсёй заходняй Беларусі, пасьля разгрому арміяў Савецкае Расіі ў чэрвені 1941 г. і акупацыі яе нямецкімі войскамі, палякі разгарнулі надзвычайную дзейнасьць. Яны неадкладна ўвайшлі ў кантакт з кіруючымі нямецкімі вайсковымі ўладамі ды пачалі займаць усе становішчы ў акруговай, паветавай і валаснойадміністрацыі, у паліцыі, а таксама і ў нямецкіх установах: мясцовых вайсковых камэндантурах, а пазьней і ў акруговым камісарыяце нямецкае цывільнае адміністрацыі. Адначасна палякі ахапілі пэрсанальную абслугу мясцовых нямецкіх кіраўнікоў. Такім чынам, ад самага пачатку нямецкае акупацыі, уся адміністрацыйная і паліцэйская ўлада ў паветах і валасьцёх апынулася поўнасьцю ў польскіх руках. Мясцовыя крайсляндвірты-немцы былі акружаныя полькамі машыністкамі, перакладчыцамі, сакратаркамі; а ў нямецкай акруговай адміністрацыі палякі таксама поўнасьцю ахапілі сваімі людзьмі дапаможныя становішчы перакладчыкаў і г. д., а нават і другарадныя кіраўнічыя становішчы.

Дабіцца гэтага палякам было няцяжка, бо наплывовы элемэнт з Пазнаньшчыны добра валодаў нямецкаю моваю, і такім чынам мог увайсьці ў давер да немцаў.

Палякі адразу распачалі акцыю вынішчэньня беларускага нацыянальнага актыву як сваімі рукамі, так і рукамі немцаў. Рабілася гэта вельмі проста. Досыць было паляку-паліцэйскаму затрымаць каго-небудзь і, прывёўшы да нямецкіх уладаў, сказаць, што гэта камуністы, як затрыманага бяз допыту і суда выводзілі ў недалёкія кусты і расстрэльвалі.

У той час ня было сувязі з мясцовасьцямі і таму нельга даць дакладных лічбаў аб вымардаваных беларусах у першую пару акупацыі. У маёй — забалоцкай — воласьці ў канцы жнівеня 1941 г., бяз ніякае прычыны, былі забраныя палякамі-паліцэйскімі Аляксей Смолік з вёскі Праважа і мой дваюрадны брат з Гудзінімскіх Пасек. Арыштаваных завялі ў "ортскамэндантуру" у Астрынку з рапартам, што іх злавілі, як узброеных камуністых. Ахвяры былі зараз-жа выведзеныя на мясцовыя жыдоўскія могілкі і расстраляныя. Мяне меў спаткаць такі самы лёс, але за мяне заступіўся былы войт польскай адміністрацыі, які быў добрым сябрам майго нябожчыка бацькі.

Польская мясовая адміністрацыя накладала на беларускае насельніцтва значна большыя падаткі й іншыя павіннасьці, чым на палякоў. Амаль з кожнае беларускае хаты былі высыланыя хурманкі ў нямецкія абозы. Абозы былі цяжкай павіннасьцяй: шмат народу памёрла там ад хваробаў, шмат было забіта вайной, а хто вярнуўся дамоў, то без каня. Палякаў гэтая павіннасьць абмінала.

Ужо першая высылка на прымусовыя працы ў Нямеччыну так сама лягла цяжарам на беларусоў. Забіралі моладзь нават з тых гаспадарак, дзе яе рукі, як апошняга мужчыны, былі неабходна патрэбныя для абрабляньня зямлі. Польская адміністрацыя загадвала сваякам-беларусам абрабляць зямлю ў такой гаспадарцы. У тым самым часе беззямельныя й беспрацоўныя палякі ў вялікай колькасьці пражывалі ў мястэчку Забалоцьце, але іх не пасылалі на працу ў Нямеччыну.

Увесну 1942 г., калі нямецкая цывільная адміністрацыя абвясьціла, што заходняя Беларусь не становіць польскіх Крэсаў Усходніх, а зьяўляецца часткаю Беларусі (Вайсрутэніі), то мясцовыя палякі выказвалі жаль, што ня вынішчылі ўсіх беларусаў да вайны — ня было-б для каго тварыць Беларусь.

У красавіку 1942 г. у мястэчку Васілішкі быў заснаваны паветавы аддзел Беларускай Народнай Самапомачы (БНС), на чале якога стаў настаўнік Юліян Груцкі. Тады-ж быў прысланы на становішча школьнага інспэктара Шляхтун, стары беларускі настаўнік, які за часоў польскага панаваньня не атрымаў працы настаўніка, бо быў беларусам. Распачалася арганізацыя беларускіх школаў. У травені 1942 г. у Забалацьці быў заснаваны валасны аддзел БНС, на старшыню якога прызначылі мяне. Пачалася паступовая замена палякаў беларусамі ў адміністрацыі.

На гэту арганізацыйную беларускую нацыянальную дзейнасьць палякі адказалі сваім крывавым тэрорам, ажыцьцяўляючы сваё спозьненае вынішчэньне беларусаў.

У нядзелю 19 чэрвеня 1942 г. паветавы старшыня БНС у Шчучыне, ён-жа і дырэктар настаўніцкае сэмінарыі, Рандарэвіч зарганізаваў Сьвята Моладзі на беразе Нёмана, у 7 км ад Шчучына. Пасьля імпрэзы, ейныя кіраўнікі Рандарэвіч, Груцкі і Шляхтун зайшлі на вячэру да мясцовага сьвятара. Пад час вячэры, у памешканьне сьвятара ўварвалася некалькі ўзброеных палякаў, якія зажадалі ад прысутных дакумантаў. Шляхтун і Груцкі паказалі свае настаўніцкія пасьведчаньні й іх не чапалі, але Рандарэвіча забралі, завялі ў жыта і застрэлілі.

На наступны дзень — 20 чэрвеня — інспэктар Шляхтун і настаўнік Груцкі раніцай варочаліся на самакатах дамоў. Не даязджаючы 4 км. да Васілішак, яны былі затрыманы палякамі-паліцэйскімі з Васілішак, заведзеныя ў жыта і застрэленыя. Самакаты засталіся на дарозе. Калі аб зьнішчэньні данесьлі ў паліцыю, дык дасьледваньне было праведзена фармальна, і ніхто ня быў выкрыты. Праз тыдзень сяляне знашлі трупы замардаваных па цяжкім паху і данесьлі ў паліцыю. Паліцыя прывязла трупы ў Васілішкі і з кпінамі казала, што гэта "пад-



ла" засмуродзіла ўсё мястэчка.

Па некаторым часе на прыходзе Турэйск, каля Шчучына, быў замучаны на сьмерць са сваёй матушкай сьвятар Іван Аляхновіч.

Перад Калядамі 1942 г. кіраўнік гаспадарчага аддзелу Васілішкаўскай паветавай управы Гарадзейчык наведаў сваю сям'ю ў вёсцы, аддеглай 8 км. ад Васілішак. У Сьвяты Вечар, калі сям'я Гарадзейчыка была за сталом, узброеная банда палякоў уварвалася ў хату і тут-жа застрэліла Гарадзейчыка.

На пачатку 1943 г. былі ўведзены новыя асабістыя пасьведчаньні (аўсвайсы), у якіх была рубрыка "нацыянальнасьць". Кіраўнік фінансавага аддзелу Васілішкаўскай паветавай управы Грушнік, якога палякі лічылі сваім чалавекам, падаў у пасьведчаньні нацыянальнасьць беларускую. У кароткім часе па атрыманьні ім пасьведчаньня, увечары нехта пастукаў да яго ў дзьверы. Грушнік адчыніў дзьверы і быў застрэлены з пісталета.

У сакавіку 1943 г. начальнік Лідзкай гарадзкой паліцыі, беларус, лейт. Канчук Усевалад, праходзіў каля рынку ў Лідзе з сястрой і ейнай калежанкай. Праходзячы праз натоўп, Канчук атрымаў стрэл у патыліцу і паваліўся забітым. Забойцы перабеглі вузкі выган, пераскочылі праз ручай і зьніклі ў Лідзкіх руінах.

У канцы травеня 1943 г. з Менску былі прысланыя: Ю. Саковіч на становішча Акруговага Старшыні БНС у Ліду і Л. Маракоў на становішча паветавага старшыні ў Васілішкі.Ніхто з мясцовых беларусаў яшчэ ня ведаў аб гэтых новых прызначэньнях, але палякі ведалі і мясцовы падпольны польскі суд вынес прысуд сьмерці новапрызначаным беларусам. Ужо за два дні да прыбыцьця ў Васілішкі Л. Маракова, адзін тамтэйшы кравец паляк казаў майму сябру А. С., які пражываў у гэтага краўца, што лепш-бы не прыяжджаў сюды новы паветавы старшыня, бо доўга тут не пабудзе.

Перад Сёмухай прыехалі ў Васілішкі Саковіч і Маракоў. На наступны дзень яны пайшлі адведаць беларусаў у фальварку Гайкаўшчына, недалёка ад Васілішак. Палякі хацелі забіць іх у дарозе, але прыбылыя ішлі з групай некалькіх асобаў, таму забойцы на самакатах абмінулі іх. Каля 3-яй гадзіны дня Саковіч з Мараковым вярнуліся ў Васілішкі, але дзьверы кватэры былі замкнутыя, бо гаспадыня пайшла адведаць сваю матку. Тады прыбылыя пайшлі да знаёмае лекаркі, прысланае на працу з Менску. Прайшоўшы некалькі крокаў праз плошчу, Саковіч з Мараковым спаткалі дзьвюх асобаў, якія, мінаючы, хутка дасталі пісталеты і застрэлілі прыбылых. Забойцы пераскочылі ксяндзоўскі плот і зьніклі паміж будынкаў. Забойцамі былі: плютановы польскага войска, пражываўшы ў Старых Васілішках і шляхціц з фальварку Острава, Васілішкаўскай воласьці.

У ліпені 1943 г. Ільля Кіслы, беларускі грамадзкі дзеяч, праяжджаючы на самакаце а поўдні па галоўнай вуліцы Ліды, атрымаў стрэл у патыліцу.

На пачатку восені 1943 г. Мікола Сямашка, камандант ахоўнага аддзелу ў маёнтку Запольле, аддеглым 4 км. ад Ліды, быў застрэлены паляком паліцэйскім.

Увосень гэтага самага году Жалудоцкі паветавы старшыня Токць Барыс, які ехаў хурманкай з мяст. Жалудок да чыгуначнай станцыі Скрыбава, на паўдарозе быў затрыманы і застрэлены палякамі.

У 1943 г. валасны старшыня ў Бакштах Кастусь Кішкель быў арыштаваны польскай паліцыяй бяз прычыны. Пасьля допыту, паляк-паліцэйскі Дражынкевіч, адводзячы арыштаванага да турмы, застрэліў яго па дарозе, нібы за спробу ўцёку.

Тады-ж быў застрэлены палякамі Юрацкі школьны інспэктар Пратасэвіч.

У пачатку сакавіка згінуў на парозе свае хаты старшыня г. Ліда Пінкевіч. Забойцы пастукалі ўвечары ў дзьверы і, калі Пінкевіч адчыніў, застрэлілі яго з пісталета.

Вышэй пералічаныя беларусы, памардаваныя палякамі, былі мне асабіста ведамыя (за вынятакм Пратасэвіча); з імі я супрацоўнічаў, або спатыкаўся. Але, апрача пералічаных, палякі вымардавалі на Лідчыне мноства іншых: настаўнікаў, працаўнікоў адміністрацыі і сялян, аб чым я толькі чуў з пераказаў іншых беларусаў пазьней. Некалькі такіх выпадкаў я і падаю ніжэй.

Банда польскіх партызанаў напала на хутар заможнага беларуса каля чыгуначнага прыстанку Курган. Палякі дамагаліся ад селяніна зброі, якое той ніколі ня меў. Селяніну выломвалі пальцы, прыпякалі гарачым жалезам, заганялі пад пазногці смалякі і запальвалі іх, рэзалі скуру і салілі жывое цела; так зьдзекваліся, пакуль селянін ні сканаў. Усе гэтыя катаваньні палякі рабілі ў прысутнасьці жонкі і дзяцей катаванага.

Аляксандар Федаровіч быў змабілізаваны ў паліцыю, але хутка звольніўся, бо ня было каму працаваць на гаспадарцы. У хуткім часе яго знайшлі на аддегласьці 12 км. ад хаты, утопленым у рацэ Дзітва, супроць Навасёлак, са зьвязанымі рукамі й нагамі.

Увесну 1944 г. палякі распачалі антыбеларускі тэрор у больш масавым абсягу. На пачатку красавіка 1944 г. толькі ў Белагрудзкай і Беліцкай валасьцёх было забіта польскімі бандамі больш 100 беларусаў у працягу аднаго тыдня. Вымардоўваліся сваякі настаўнікаў, працаўнікоў адміністрацыі, БНС, вясковых старастаў, якія працавалі пад нямецкай акупацыяй, а таксама забіваліся ўсе тыя, хто працаваў падчас савецкае акупацыі да 1941 г. нават на найніжэйшых становішчах, як: вясковыя ўпаўнаважаныя, працаўнікі сельпо і г. п.; сваякі іх таксама вымардоўваліся. Такім чынам палякі ачышчалі Беларусь ад інтэлігентнейшай часткі насельніцтва, ад сваіх патэнцыяльных ворагаў. Такую акцыю палякі

маглі арганізавацца на Лідчыне дзякуючы свеасаблівым мясцовым абставінам.

Ад пачатку нямецкай акупацыі на Лідчыне дзеіла моцная нелегальная польская арганізацыя, якая ў другой палове 1943 г. была прызнаная немцамі за дзейнік, з якім належыць лічыцца. Немцы ня толькі талеравалі гэтую польскую арганізацыю, але і памагалі ёй зброяю, амуніцыяй, лекамі, а нават прыймом у шпіталі хворых і раненых польскіх партызанаў. На вуліцах Ліды было відаць едучых хурманкамі польскіх ахвіцэраў і жаўнераў. У маёй прысутнасьці ў канцылярыю акруговае нямецкае жандармэрыі ў Лідзе прыбыў польскі паручнік у ўніформе, зажадаў спатканьня з акруговым камандантам жандармэрыі, што і было зараз-жа выканана.

Немцы вялі на Лідчыне падвойную палітыку: афіцыйна нібы падтрымлівалі нацыянальныя імкненьні беларусаў, а за плячыма — давалі паляком магчымасьць арганізавацца збройную сілу, нацкоўваючы іх на берарусаў. Стацыянаваньне літоўскіх ды ўкраінскіх батальёнаў на Беларусі дадаткова сьцьвярджае факт, што немцы не ўважалі беларускі народ за прыхільны для сябе.

Адклікаючы з вясковых школаў усіх беларускіх настаўнікаў, якія яшчэ ня былі памардаваныя палякамі, немцы тлумачылі гэта беларусам, як імкненьне захаваць настаўнікам жыцьцё. Можна прыпушчаць, што гэтае адкліканьне было ўступкай польскім дамаганьням аб спыненьні арганізацыі беларускіх школ на Лідчыне.

Выпраўляючы беларусаў ў раёны, на працу на кіраўнічыя становішчы, немцы запэўнялі іх аб сваёй дапамозе і рэпрэсіях супроць палякоў за эвэнтуальныя акты тэрору. У сапраўднасьці-ж немцы не рабілі ніякіх захадаў у сувязі з мардаваньнем палякамі беларусаў. Трэба прыпушчаць, што гэтая дзейнасьць была на руку немцам.

Зьмена польскай адміністрацыі на беларускую на Лідчыне адбывалася вельмі паволі. Паліцыя да канца была пад кантролем палякаў. На пачатку красавіка 1944 г. на 25 камэндантаў паліцыі 21 камэндант былі палякамі. Дзьве трэціх агульнага складу паліцыі Лідчыны былі палякамі. Акруговы камісарыят Ліды да канца быў запоўнены польскімі дапаможнымі працаўнікамі, за выняткам некалькіх беларусаў.

Палякі вельмі ўмела абслугоўвалі розныя асабістыя патрэбы нямецкіх кіраўнікоў, пачынаючы ад акругового камісара. На дзень нараджэнаў камісара палякі падаравалі яму каштоўны пярсьцёнак з нацыстоўскага колеру каменем. Сымпатыі камісара да палякоў дайшлі да таго, што ў 1944 г. ён езьдзіў на Вялікдзень на сьвянцонку да польскіх партызанаў. Полькі машыністкі і сакратаркі вельмі ахвотна абслугоўвалі розныя жыцьцёвыя патрэбы нямецкіх кіраўнікоў і, карыстаючыся з магчымасьцяў, адстойвалі польскія нацыянальныя справы. Пры такіх прыязных абставінах палякі разбудоўвалі свае збройныя аддзелы на выпадак магчымасьці захопу ўлады на Лідчыне і на ўсёй заходняй Беларусі. Некалькі ілюстрацыяў для характарыстыкі магчымасьцяў гэтае польскае падрыхтоўчае дзейнасьці падаецца ніжэй.

Адзін селянін з вёскі, адлеглай 2 км. ад Васілішак, аднойчы ня выехаў на шарварк. На наступны дзень жандармы з паліцыяй зайшлі да гэтага "непаслухмянага" чалавека. Аказалася, што ён быў пад польскай уладай: у хаце была цэлая канцылярыя. Плютановы пісаў на машынцы. Жандармы арыштавалі плютановага, забралі куфар актаў, машыку і запас зброі. Праз дзьве гадзіны пасьля гэтага ў жандармэрыю зьявіўся польскі паручнік з капралам і зажадаў звальненьня арыштаванага і звароту ўсяго забранага, пагражаючы збройным выступленьнем супроць немцаў. Немцы выканалі ўсе дамаганьні польскіх партызанаў.

У Васілішкаўскай жандармэрыі працаваў "обэрвахмайстар" Цесьляк з Верхняй Сілезіі (мабыць, зьнемчаны паляк). Ён перадаваў усе патрэбныя сакрэты паляком, за што меў каханку польку і частыя пачастункі ад палякаў.

Пасьля забойства Саковіча і Маракова былі выкрыты іх забойцы, а так сама было сабрана шмат матэрыялаў аб польскай дывэрсійнай дзейнасьці ды акцы супроць беларусаў на Лідчыне. Матэрыялы былі пераданыя Ільлі Кісламу для далейшага ходу. Гэтыя матэрыялы забрала Лідзкая жандармэрыя і пераслала жандармэрыі ў Васілішках. Палякі зараз-жа былі паінфармаваныя аб кампрамітуючых іх матэрыялах і ўжо праз тыдзень па атрыманьні матэрыялаў Кіслы быў застрэлены палякамі, аб чым мы ўпаміналі вышэй. Больш трох месяцаў матэрыялы ляжалі ў Васілішкаўскай жандармэрыі. Трэба прыпушчаць, што папярэджаныя немцамі палякі паліцэйскія, выкрытыя ў матэрыялах, пайшлі ў партызаны, забраўшы зброю і амуніцыю з паліцыі.

Частка Гарадзеншчыны і Беласточчыны былі далучаныя да Усходняй Прусіі. Польская падпольная арганізацыя з Васілішак дзеіла на абшары гэтых адлучаных тэрыторыяў. Гэтая дзейнасьць была выкрыта нямецкімі ўладамі Усходняе Прусіі, якія выкрылі карэньні яе ў Васілішках і прыбылі сюды для ліквідацыі. Аднак, Васілішкаўская жандармэрыя не дапусьціла да гэтай ліквідацыі, матывуючы патрэбай часу для далейшага сачэньня.

У гэтым часе ў Васілішках была расквартэраваная рота 63 батальёну "штуцманшафту" украінцаў, з якімі мы мелі прыязныя дачыненьні. Украінцы таксама выкрылі існаваньне польскай падпольнай арганізацыі і, ня пытаючыся немцаў, дня 23 сьнежня 1943 г; арыштавалі ў Васілішках 22 палякоў. На наступны дзень 5 асобаў было звольнена, а рэшта мела быць дастаўлена ў Ліду. Транспарт складаўся з арыштаваных палякаў, 8 нямецкіх жандармаў і 15 украінскіх "штуцманаў". Каля Вавёркі польскія партызаны зрабілі засаду, відаць загадзя паінфармаваныя.



Стрэламі з кулямётаў палякі забілі 3-х немцаў і 9-х украінцаў ды адбілі арыштаваных палякаў. Роту украінскіх "штуцманаў" перавялі з Васілішак у Іўя, відаць, для супакою, і ніякіх рэпрэсіяў супроць палякоў за забітых немцаў ня было.

Па-ранейшаму польскія банды наяжджалі на беларускія вёскі, рабавалі сялян, а пазьней даносілі немцам, быццам беларусы маюць зносіны з савецкімі партызанамі. Немцы прысылалі карныя вайсковыя аддзелы, якія забівалі нявінных беларусаў, хапалі й вывозілі на працу ў Нямеччыну, а вёскі палілі. Так была спалена вёска Вялікае Сяло Скрыбаўскай воласьці; шмат вёсак было спалена часткова.

Савецка-расійскія партызаны апэравалі пераважна на абшарах, якія прылягалі да вялікіх лясоў. На Лідчыне ня было вялікіх лясных масываў, і таму ня было спрыяльных абставінаў для савецкіх партызанскіх злучэньняў, якія дзеілі на ўзьмежах Лідчыны, за Нёманам, у Занямонскай пушчы і на ўсходзе, у Налібоцкай пушчы. Там яны вымардоўвалі беларускі нацыянальны актыў побач свае антынямецкае акцыі.

На мяжы Радунскай і Забалацкай валасьцей, пры сутыку іх з Літвой, дзеіла невялікая колькасна партызанка жыдоў, якія ўратаваліся з Радунскага гэтто. Аднак, гэтыя партызаны не выяўлялі ніякае дзейнасьці, апрача рабаваньня насельніцтва для свайго харчаваньня.

(Подпіс аўтара не падаецца для бясьпекі яго сваякоў, якія жывуць пад савецкай уладай).

М. ПАНЯМОНСКІ

# ЗА ДЗЕСЯЦЬ ГОД

(Блескі й цені беларускага грамадзкага жыцьця ў З. Г. Амэрыкі.)

Сёлета мінае дзесяць год, як новая беларуская эміграцыя ў аснаўной сваёй "масе" знайшла прытулак на зямлі Вашынгтона. З нагоды гэтае гадавіны, не зашкодзіць кінуць рэтроспэктыўна вокам на пройдзены ею грамадзкі шлях, падсумаваць асягненьні, прааналізаваць зробленыя памылкі ці ўпушчэньні, ды на аснове адных і другіх падумаць аб нацыянальна-грамадзкай будучыні беларускага пытаньня ў Амэрыцы. На апошні аспэкт гэтае праблемы хай дазволена будзе зрабіць спэцыяльны, хаця й абмежаваны памерам сьціплага артыкулу, націск.

Вось-жа, як ведама, сучасная беларуская эміграцыя ў ЗГА, у адрозьненьне ад ранейшай, гэта ў бальшыні эміграцыя палітычная. Гэта ў бальшыні людзі, якія, прайшоўшы ў прысьпешаным тэмпе працэс нацыянальна-палітычнага беларускага ўсьведамленьня ў барацьбе за нацыянальнае існаваньне беларускага народу, пакінулі сваю бацькаўшчыну ў выніку гэтай барацьбы перад наступам пераважаючых сілаў найбольшага ворага беларускага народу — расейскага бальшавізму. Апынуўшыся на амэрыканскай зямлі ў атмасфэры неспатыканых імі дасюль свабодаў, яны пачалі адразу-ж выкарыстоўваць апошнія ў напрамку наладжаньня нацыянальна-арганізацыйнага жыцьця. Арганізацыйная дыфэрэнцыяцыя ішла па лініі палітычнай, грамадзкай, царкоўнай, культурнай і харытатыўнай. Трэба таксама ўспомніць і арганізацыйнае жыцьцё моладзі із яго культурным, грамадзкім і спартовым аспэктамі.

Трэба прызнаць, што палітычны, а дакладней кажучы, групова-палітычны дзейнік быў вырашальным фактарам у фармаваньні арганізацыйнага беларускага жыцьця ў Амэрыцы ўва ўсіх аспэктах гэтага жыцьця.

Падзел беларускай эміграцыі на дзьве групы, які наступіў у Нямеччыне, знайшоў сваё прадаўжэньне і ў Амэрыцы ды наложыў свой выразны адбітак на ўсе іншыя арганізацыйныя формы беларускага грамадзкага жыцьця ў першым дзесяцігодзьдзі яго нага амэрыканскага існаваньня.

Усё арганізацыйнае беларускае жыцьцё, за выняткам г. зв. трэйцяй сілы ў Канадзе із нялічнымі ейнымі прыхільнікамі ў ЗГА ды да канца 1958 групы Бел. Амэр. Зьвязу, праходзіла пад агідаю БЦР ці г. зв. БНР. Розьніца была толькі ў ступені фактычнай залежнасьці беларуска-амэрыканскіх грамадзкіх арганізацыяў ад успомненых вышэй паліты-

чных цэнтраў. Яна была меншай у арганізацыяў бэцээраўскай арыентацыі да амаль камплетнай у арганізацыяў г. вв. бээнэраўскай групоўкі.

Арганізацыі аднае й другое арыентацыі ў першым дзесяцігодзьдзі, у меру сваіх сьціплых і да таго-ж расьцярушаных сілаў, стараліся рабіць шмат у напрамку папулярызацыі беларускае справы ў новым, неарыентуючымся, амэрыканскім асяродзьдзі. І ў гэтай дзялянцы, трэба прызнаць, праароблена паважная, хаця далёка не максымальная ў прапорцыі да існуючых нутраных і вонкавых магчымасьцяў, работа. Кантакт і супрацоўніцтва з рознымі амэрыканскімі й іншанацыянальнымі арганізацыямі, з прадстаўнікамі амэрыканскага Кангрэсу, сьветчаньні перад Кангрэсавымі Камісіямі, публікацыі гэтых камісіяў, сьвяткаваньні 25 Сакавіка, угодкаў Слуцкага Паўстаньня і г. д. зьяўляюцца вымоўнымі прыкладамі гэтай акцыі ды паважнымі блескамі ў жыцьці беларускай калёніі ў Амэрыцы. У парадку аб'ектыўнасьці трэба прызнаць, што гэтую карысную работу заініцыяваў і з посьпехам праводзіў спачатку БКК, а апошнім часам больш у гэтым напрамку ўкладае працы й энэргіі БАЗА.

У галіне культурнай праароблена, таксама, пэўная работа як у аспэкце лёкальным, так і агульным. Да першага трэба залічыць рознага характару лекцыі, культурна-прасьветныя вечары, дыскусыйныя вечары, жывыя газэткі, спэктаклі і г. д. Да другога — выдавецтвы (непэрыядычная, нажаль, прэса, зборнікі вершаў, брашуры), найграньне на пліткі беларускіх народных і патрыятычных песьняў г. д. Гэтыя апошнія, шмат кім недацэньваныя, зьяўляюцца вельмі паважным укладам у нацыянальна - культурную скарбніцу беларускае калёніі ў ЗГА, а Беларускаму Хору ў Саўт Рывэр, хору "Жалейка" ў Канадзе, клііўляндзкай БАЗА ды ЗБДАК належыцца прызнаньне за высілак у іх зрэалізаваньні.

У царкоўна-рэлігійнай дзялянцы нешматлікая маладая беларуская калёнія ў Амэрыцы можа пахваліцца адносна неапошнімі асягненьнямі. Дацэньваючы вагу й значэньне рэлігійнага пытаньня ў асабістым і нацыянальна-грамадзкім жыцьці, беларусы ў Амэрыцы ў працягу 10 гадоў з даслоўна нічога стварылі й паставілі ў арганізацыйным і эканамічным аспэктах даволі моцна на ногі цэлы шэраг сваіх беларускіх арганізацыяў-прыходаў, якія, у адрозьненьні ад іншых арганізацыйных формаў, маюць ўсе дадзеныя на пэрманэнтнае існаваньне. Апрача чыста рэлігійнага мамэнту, беларускія цэрквы-прыходы ў пэўнай ступені праводзяць і нацыянальна-ўзгадаваўчую работу ў форме нядзельных школкаў і імпрэзаў.

Арганізацыі моладзі сваю актыўнасьць праяўлялі ў двох напрамках:

1. па лініі арганізацыяў старэйшага грамадзтва, беручы актыўны ўдзел у арганізаваньні й праводжаньні ў жыцьцё імрэзаў гэтых апошніх;

2. непасрэдна ў сваім уласным асяродзьдзі ды асяродзьдзі моладзі амэрыканскай і іншых нацыянальных групаў, шляхам ладжаньня культурных імпрэзаў, выдавецтва ды спартова-таварыскіх выступленьняў.

У аспэкце харытатыўным актыўнасьць праявілася ў першых гадох у форме юрыдычнай і матэрыяльнай помачы пры перасяленьні беларускай эміграцыі із Зах. Эўропы ў ЗГА, а пазьней у форме нерэгулярнай матэрыяльнай дапамогі суродзічам ў Зах. Эўропе, якія не змаглі, з тых ці іншых прычынаў, адтуль выэміграваць.

З гэтага вельмі кароткага й схэматычнага агляду пазытываў грамадзкай дзейнасьці беларускай калёніі ў ЗГА відаць, што ў першым дзесяцьцігодзьдзі зроблены даволі паважныя поступы ў нацыянальна-грамадзкім сэктары, здабыты пэўныя асягненьні. Ці зроблена, аднак, максімум пры дадзеных абставінах і нутраных магчымасьцях беларускай грамады ў ЗГА? Трэба шчыра й аб'ектыўна сказаць, што далёка не!

Галоўнаю перашкодаю ў неасягненьні лепшых, зусім магчымых да асягненьня, вынікаў нацыянальна-грамадзкай працы за апісваны пэрыяд часу быў успомнены вышэй груповы падзел, жыўцом перанесены з лягероў Нямеччыны й штучна, з амэрыканска-беларускага пунку гледжаньня, наперакор здаровай лёгіцы, падтрымоўваны кіраўніцтвам групаў у ўзлоньні беларускай грамады ў Амэрыцы. Гэты падзел, із дубляваньнем грамадзкіх, культурных ды іншых арганізацыяў, у вялікай меры аслабіў, і так даволі слабыя ў абсалютным значэньні гэтага слова нацыянальна-грамадзкія творчыя сілы, здэмаралізаваў сьціплыя масы ды спавадаваў значныя страты нацыянальнай энэргіі й часу на ялавае нутраное змаганьне, адцягваючы іх гэтым самым ад больш важных заданьняў і патрэбаў.



З іншых прычынаў, часткова залежных, а часткова незалежных ад груповага падзелу, якія значна зменшылі эфэктоўнасьць арганізаванага высілку беларускага грамадства ў ЗГА ды нэгатыўна адбіваюцца на будучыні беларускага пытаньня ў Амэрыцы, належыць успомніць наступныя:

1. "Валізковую палітыку" груповых кіраўніцтваў з выплываючай з яе бязпляновасьцю арганізацыйнага нацыянальна-грамадзкага жыцьця;

2. Шкоднае зьмешваньне ў палітычным, грамадзкім ,а нават і культурным ды царкоўным аспэктах справаў беларускай палітычнай эміграцыі із справамі амэрыканцаў беларускага паходжаньня;

3. Грамадзкую нявыробленасьць з выплываючымі з яе антыдэмакратызмам, арганізацыйным астрацызмам ды пэрсоніфікацыяй арганізацыяў і, нават, ідэалаў;

4. Заканамерны працэс апартунізацыі.

Варта, прынамсі коратка, затрымацца над кажнаю із іх.

Вось-жа, "валізковая палітыка" заключаецца ў тым, што кіраўніцтва групаў, з менш ці больш слушнымі ці няслушнымі прэтэнсыямі на рэпрэзэнтацыю нацыянальна-палітычных і дзяржаўных інтарэсаў беларускага народу, бачыць сваю будучыню не ў Амэрыцы, а толькі на Беларусі. Лёгічна, усё заінтэрасаваньне й дзейнасьць чала гэтых групаў накіраваны ёсьць у напрамку прысьпяшэньня павароту на Беларусь. У гэтым, бязумоўна, нічога дрэннага няма. Кажны сумлеўнны беларус, а нават і небеларус, ёсьць і павінен быць заінтэрасаваным у тым, каб беларускі народ вызваліўся із бальшавіцкай няволі, а Беларусь сталася вольнаю краінаю. Затое дрэнным і шкодным, у сьвятле сяньняшняй палітычнай міжнароднай рэальнасьці, зьяўляецца тое, што, псыхічна седзячы на спакаваных ад 16 гадоў валізках і ня будучы непасрэдна заінтэрасаваным у будучыні беларускага пытаньня ў Амэрыцы, кіраўніцтва гэтых групаў ня мела й ня мае пляну працы ды амаль нічога ня робіць у грамадзкім, культурным і эканамічным аспэктах для беларускай будучыні ў ЗГА. Устаноўка на тымчасовасьць беларускага прабываньня ў Амэрыцы зьяўляецца хвальшывай з двух пунктаў гледжаньня. Папершае, незалежна ад таго ці гэта нам падабаецца ці не, пытаньне павароту на Беларусь, за выняткам пасярэдніцтва гэн. Вішнеўскага, пры сяньняшняй міжнароднай палітычнай сытуацыі зьяўляецца вельмі й вельмі праблематычным. Падругое, нават пры заіснаваньні гэтай магчымасьці далёка ня ўсе беларусы сяньняшняй гэнэрацыі, не гаворачы ўжо аб падрастаючым або будучым пакаленьні, захочуць вярнуцца на Беларусь. Гэта ёсьць факты, якіх, на жаль, кіраўнікі групаў, ліцытуючыся міжсобку ў нездаровым гура-патрыятызме, часта сьвядома ня хочуць бачыць і ўзяць іх пад увагу ў сяньняшняй і будучай грамадзкай працы. Палітыка-ж чаканьня з дня на дзень на паварот на Беларусь можа быць цяжарнай у катастрафальныя насьледкі для беларускае праблемы ў ЗГА. Мы ўжо сяньня бачым, што калі сучасная гэнэрацыя беларускай іміграцыі ў Амэрыцы, кіруючыся эмоцыяй, цікавіцца яшчэ беларускім пытаньнем і стараецца нешта для яго рабіць (безпараўнальна менш, як некалькі гадоў таму назад), то падрастаючае яе пакаленьне, пазбаўленае эмацыянальнага аспэкту й веды ды паддадзенае ўплывам школы й акружэньня, гэтым пытаньнем амаль зусім ня цікавіцца. Амаль штодзёным зьяўляецца факт, што дзеці, нават у сем'ях грамадзка-актыўных беларусаў, з бацькамі гавораць пабеларуску, між сабою-ж — толькі паангельску. Для іх амэрыканскія гістарычныя постаці, нават ангельскі Робін Гуд ці ірлянскі Сэн Патрык, зьяўляюцца нечым блізкім, часткаю іхнага

”я”, нечым заслугоўваючым на ўвагу ці нават пашану, Беларусь-жа становіцца нечым неакрэсьленым, часткаю Расеі, ці нават, на плошчы сяньняшніх амэрыканска-савецкіх дачыненьняў, часта паніжаючым паняцьцем. Як ня сумнае зьявішча, але, на праглыбокі жаль, праўдзівае!

Зварочваючы ўвагу на праблему падрастаючага пакаленьня, я даволі далёкі ад таго, каб заклікаць да нейкага крыжовага паходу супраць ягонай амэрыканізацыі. Гэта было-б, беручы пад увагу абставіны, нават у пэўнай меры дон-кішоцтвам. У дадзеных абставінах бытаваньня працэс асыміляцыі зьяўляецца заканамерным працэсам, залежным толькі ад часу й ніякая сіла яго ня ў стане затрымаць. У існуючых варунках можна й трэба, аднак, зрабіць тое, каб новая беларуская гэнэрацыя, вырастаючы на добрых амэрыканцаў, памятала аб сваім беларускім паходжаньні, ганарылася ім ды рабіла ўсё магчымае ў напрамку папулярызацыі беларускае праблемы й падтрымкі беларускага народу ў ягоным змаганьні за волю й незалежнасьць.

Гэта можна асягнуць коштам паважнага, плянавага й агульнага высілку ў напрамку запазнаньня падрастаючага пакаленьня з беларускаю мовою, культураю, гісторыяй, звычаямі й абычаямі ягоных продкаў, у напрамку вытварэньня ў ім духовай і культурнай лучнасьці з Беларусьсю ды рэальна-здаровага сымбіёзу беларускага з амэрыканскім. Калі мы гэтага ня здолеем зрабіць, новая гэнэрацыя будзе страчана для беларускасьці, а із стратаю яе, пасьля нас загіне й беларускае пытаньне ў ЗГА з усімі ягонымі аспэктамі за выняткам хіба толькі біялёгічнага.

На праглыбокі жаль, у гэтым напрамку, стоячы на пазыцыях ”валізковай палітыкі”, базаваных на ілюзыях хуткага павароту на Беларусь, груповае кіраўніцтва амаль нічога не рабіла й нічога ня робіць, бо нерэгулярна ведзеных ндзельных школкаў у ніякім выпадку нельга ўважаць за дастатковую акцыю ў гэтай галіне.

З гэтых-жа самых матываў, даслоўна нічога ня робіцца і ў іншай, кардынальнай дзялянцы грамадзкага жыцьця ў Амэрыцы, на якой базуецца трываласьць усяго іншага — гэта ў дзялянцы эканамічнай.

Недацэньваньне эканамічнага фактару зьяўляецца тыповаю рысаю нацыянальнага характару беларуса. Ён (эканамічны фактар) быў на Беларусі й стаўся тут у Амэрыцы найслабейшым месцам беларускага нацыянальна-грамадзкага жыцьця, згары перачырківаючым магчымасьць паважнейшага ягонага разьвіцьця ў будучыні.

Зьмешваньне паняцьця й зьместу беларускага палітычнага эмігранта із паняцьцем і зьместам амэрыканца беларускага паходжаньня зьяўляецца, таксама, аднэй з прычынаў, якія нэгатыўна адбіліся на выніку грамадзкай працы ў апошніх пяці гадох.

У першую чаргу гэтае зьмешваньне засанкцыянавала груповы падзел беларускай грамады ў Амэрыцы з усімі ягонымі ад'емнымі насьледкамі. Па-другое — яно адпіхнула ад грамадзкай працы частку вартаснага актыву, які ня хоча быць замешаным у ”яловую” міжгруповую грызьню. Па-трэцяе — яно выклікае дэзарыентацыю і ў выніку апошняй абыякавасьць падрастаючага амэрыканска-беларускага пакаленьня да беларускай нацыянальнай справы.

Для апошняга зьяўляецца зусім абыякавым, якая з двух незележніцкіх групаў будзе пры тым ці іншым карыце сяньня ці пры ўладзе ў вольнай Беларусі заўтра. Яно ўважае, між іншым зусім слушна, што правамоцным вырашыць гэтае пытаньне зьяўляецца толькі й вылучна сам беларускі народ. На жаль, із меркаваньняў асабістага й групавага эгаізму, для стварэньня ілюзіяў ”масавасьці й моцы” свайго ўгрупаваньня перад тымі, пераважна небеларускімі дзейнікамі, кіраўніцтва групаў (пяршэнства ў гэтай дзялянцы, бясспрэчна належыцца г. зв. бээнэраўскай групе) сьвядома паглыбляе гэтае зьмешваньне паняцьцяў абсурдальнымі цьверджаньнямі аб магчымасьці займеньня шматлікага грамадзянства і дапушчальнасьці спаўняньня дзяржаўных функцыяў (міністраў, паслоў і г. д.) грамадзянамі іншых дзяржаваў.



Паважным, а магчыма найважнейшым, бо першакрыніцаю іншых, ценем беларускага грамадзкага жыцьця ў Амэрыцы была й засталася да сяньня грамадзкая нявыробленасьць актыву, не гаворачы ўжо аб радавых сябрах, беларускай калёніі ў ЗГА. Грамадзкая й палітычная нявыробленасьць, спадчына шматвяковай няволі, з яе атрыбутамі, як: непашанай да поглядаў іншых, пэрсоніфікацыяй арганізацыяў, а нават і ідэяў, монополістычнымі тэндэнцыямі, арганізаванай аўтократыяй, недахопам элемэнтарнага аб'ектывізму, арганізацыйным астрацызмам і г. д., у вялікай меры тармазіла прагрэс беларускай справы ў ЗГА учора, тармозіць яго сяньня й будзе тармазіць яго і ў будучыні. Няздольнасьць стварэньня адзінай і агульнай беларускай грамадзкай установы ў ЗГА, дубляваньні сьвяткаваньняў 25 Сакавіка, угодкаў Слуцкага Паўстаньня і г. д. зьяўляюцца вымоўнымі прыкладамі гэтай грамадзкай нявыробленасьці.

Працэс апартунізацыі зьяўляецца з'явішчам агульным (г. зн. ня толькі беларускім) і да пэўнай меры, калі можна гэтак сказаць, нават нармальным. Апартуністыя — гэта тыя ”тараканы ў саладусе”, аб якіх ужо даволі часта ўспаміналася ў беларускай прэсе. Аб апартунізацыі зацемлена тут толькі дзеля таго, што ў беларускім асяродзьдзі Амэрыкі яна зьяўляецца непрапарцыянальна высокай у адносінах да агульнай колькасьці беларусаў. Прычына гэтага, магчыма, у вялікай меры, ляжыць у груповым падзеле ды міжгруповых сварках.

Агляд прычынаў, якія абнізілі выдайнасьць грамадзкага арганізаванага высілку беларускай калёніі ў Амэрыцы, ня быў-бы камплетным, калі-б ня ўспомніць аб хворых амбіцыях, пэрсанальных анімозыях, гіпэрбалізаваным эмацыяналізме сярод вядучага актыву ды хворай між-арганізацыйнай рывалізацыі. Эмацыяналізм спалучаны із між арганізацыйнай, а дакладней кажучы міжгруповай, хворай рывалізацыяй даходзіў часта да абсурдальных памераў, зацямняючы зусім здаровы розум і лёгіку ў грамадзкім паступаваньні. Вельмі часта тварыліся арганізацыі ці рабіліся пачынаньні ў абставінах, згары выключаючых іх дамэтнасьць, жыцьцёвасьць і працаздольнасьць, не з патрэбы ці карысьці апошніх, а толькі наўсуперак сваім ”праціўнікам”. Вынік быў да прадбачаньня — : дзьве стараны па пэўным часе клаліся на лапаткі, народ дэмаралізаваўся, а справа цярпела. Эмацыяналізм ды нездаровая рэвалізацыя зацямнялі пачуцьцё рэальнасьці, адбіралі здольнасьць ацэны пяршэнства патрэбаў і карысьці іх, даводзячы напр. да таго, што пасуседзку маюцца аж 2 праваслаўныя магільнікі, якія замарозілі тысячы даляраў для даслоўна 11 нябошчыкаў, а няма народнага дому на культурныя патрэбы для сотняў моладзі.

На заканчэньне некалькі сказаў аб недахопах у дзялянцы царкоўнай і моладзі. Як успомнена вышэй, беларускае царкоўнае жыцьцё ў Амэрыцы, з пункту гледжаньня арганізацыйнага, параўнальна найлепш пастаўлена, бо яно, памінаючы моцна цэмэнтуючы рэлігійны дзейнік, базуецца на рэальных, у аспэкце грамадзка-арганізацыйным, сяброх ды на здаровых эканамічных падставах. Поважным недахопам, аднак, апошняга зьяўляецца тое, што ў ім часта рухавіком, калі йдзе аб кіраўнічыя колы, быў і, на жаль, ёсьць сяньня ня толькі можа рэлігійны, колькі групова-палітычны дзейнік. У выніку: царквы, у паважнай ступені, зрабіліся свайго роду рэлігійнымі экспазытурамі палітычных груповак і выкарыстоўваюцца апошнімі для групавых мэтаў, і заміж таго, каб быць, як у іншых сьпелых грамадзтвах, аб'яднаўваючым дзейнікам, у нас яны зьяўляюцца дзейнікам паважна паглыбляючым раз'яднаньне. Другім мінусам арганізаванага беларускага царкоўнага жыцьця ў Амэрыцы ёсьць прапарцыянальна малы ўдзел царкоўных арганізацыяў у культурна-прасьветнай і нацыянальна-узгадаваўчай працы. Сумным фактам, таксама, зьяўляецца недаацэньваньне беларускай мовы сьвятарамі беларускіх прыходаў. Апошнія, незалежна ад юрысдыкцыі, не гаворачы ўжо аб літургіі ці дадатковых багаслужбах, дзе вылучна ўжываецца зрасейшчаная царкоўна-славянская мова, нават у пропаведзях карыстаюцца не беларускай мовай, а нейкай беларуска-расейска-царкоўна-славянскай трасянкай.

Недахоп маладзежовага адрэзку зьяўляецца арганізацыйнае неахапленьне аграмаднае большасьці падрастаючага беларускага пакаленьня ў ЗГА. Існуючыя арганізацыі моладзі абыймаюць, даволі слаба ў арганізацыйным сэнсе, толькі маленькую, найбольш ідэйную, яе частку й пераважна тую частку, якая паводле веку з паводжаньнем можа належыць да арганізацыяў старэйшага грамадзтва. Запраўдная-ж, "маладая" моладзь, на жаль, ходзіць "дзікай" у сэнсе арганізацыйным і знаходзіцца вонкі беларускага ўплыву. Віна тут цалком старэйшага грамадзтва, якое моладзьдзю мала цікавілася, а калі й цікавілася то толькі пастольк і, паколькі апошняя была яму патрэбная ў матэр'яльна - цыфровым сэнсе для праводжаньня тае ці іншае груповае палітыкі. У рэзультаце заўважаецца трагічны недахоп супольнай мовы й супольнасьці інтарэсаў паміж старэйшым грамадзтвам і моладзьдзю Зьявішча вальмі сумнае, калі не трагічнае для будучыні беларускага пытаньня ў Амэрыцы.

Пацяшаючым фактам сярод з'арганізаванай беларускай моладзі зьяўляецца паступовае яе ўнезалежненьне ад груповай "філязофіі" старэйшых.

Гэтак у агульным і даволі схэматычным прадстаўленьні выглядае абраз беларускага нацыянальна-грамадзкага жыцьця ў Амэрыцы із пэрэспэктывы 10-цігадовага ягонага існаваньня ды рэфлексыяў апошняга на будучыню.

На аснове яго можна, і нават трэба, зрабіць пэўныя вывады ды для большай эфэктоўнасьці й лепшай мэтанакіраванасьці нашага грамадзкага высілку ў будучыні, для самой нацыянальна-грамадзкай нашай будучыні ў ЗГА пастарацца апашнія зрэалізаваць на практыцы.

Найбольш сталым у сьвеце ёсьць зьменнасьць, кажа француская прыказка. І гэтая заканамерная зьменнасьць вымагае зьмены нашага дасюлешняга грамадзкага паступаваньня і рэвізыі дасюлешніх мэтадаў дзеяньня. Калі мы гэтага закону жыцьця ня возьмем пад увагу ў нашых грамадзкіх дачыненьнях, а будзем жыць толькі ўчарашнім ды сяньняшнім, то жыцьцё пяройдзе над намі да парадку дня, з безпаваротнымі шкодамі для нацыянальна - грамадзкай нашай Справы наагул, а ў Амэрыцы ў прыватнасьці.

---

## НА РЭЛІГІЙНЫМ АДЦІНКУ

### (Дыскусыйны)

Ужо стагодзьдзямі ўстабілізаваны падзел Беларускага Народу на праваслаўных і рыма-каталікоў. Але сяньня і пасярод гэтых аснаўных групаў існуе далейшы падзел, або спробы ягонага стварэньня.

Рыма-каталікі, выконваючы загад згары, (гэта трэба сказаць выразна, бо, з увагі на сканцэнтраваньне ўсяго кіраўніцтва ў Ватыкане,усё, што робіцца ў каталіцкім касьцеле, робіцца толькі на загад згары), не задаволеныя, відаць, са становішча раўнапраўя, узяліся за місыянэрскую акцыю сярод праваслаўных і праводзяць яе, не зважаючы на адзінамагчымыя наступствы гэтай акцыі — узьняцьце нутранога рэлігійнага змаганьня. Відаць ім зусім не агідная роля, прызначаная Ватыканам, — роля дасьледных трусоў, над якімі Ватыкан хоча правесьці досьлед, каб пазьней, у эвэнтуальна зьменных абставінах, выкарыстаць набытае дасьветчаньне.

У сувязі з гэтым, на мейсцы будзе спытаць дзеячоў гэтай акцыі, паза ватыканскімі грамадзянамі: ці ня час спыніць шкодную акцыю ўзьніманьня рэлігійнага змаганьня, для задаваленьня трэціх? А гэтых трэціх, нам варожых, ёсьць многа. Ці ня час спыніць марнаваньне энэргіі, якая так патрэбная на многіх іншых дзялянках? Ці ня час спыніць акцыю паменшваньня колькасьці нашых грамадзкіх дзеячоў? Бо-ж зразумела, што ў двурэлігійным народзе нельга быць аднячасова і агульным грамадзкім дзеячом і рэлігійным місыянэрам.

Калі-б аднак гэтая бяда была адзінай, дык гэта было-б яшчэ нічога. Нажаль, аднак, і на іншых адрэзках мала лепш.

Калі ў 1946 годзе, пасьля пераходу епіскапаў з Беларусі пад расейскую юрысдыкцыю, з фарысэйскім даводжаньнем, што расейская юрысдыкцыя гэта адзіная кананічная, Беларусы засталіся без свайго епіскапату, дык у выніку кустарнай акцыі некалькіх







патрыётаў была адноўлена Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква. Факт гэты быў вельмі на часе, бо разбураў кампрамітуючае нас уяўленьне нашых ворагаў аб тым, што Беларусы — гэта дурныя авечкі, якія за сваімі пастырамі гатовыя ісьці ўсюды, нават урасейскую царкву, прыймаючы на веру іхныя цьверджаньні аб іхнай кананічнасьці.

Бязумоўна, пры аднаўленьні БАПЦ не абыйшлося без памылак. Так: ня было зроблена спробы прыцягнуць да гэтай акцыі розныя палітычныя групы. Хаця мне здаецца, што ў тагачасных абставінах такая спроба была-б непасьпяховай, але, тым ня менш, утварэньне БАПЦ мела сваё вялікае значэньне, як ратуючае гонар Беларусоў, як паказваючае, што Беларусы — гэта не этнаграфічная ярупа, але Народ (з вялікай літары).

Некаторыя недахопы, зробленыя пры аднаўленьні БАПЦ ў Канстанцы, маглі-б быць, бязумоўна, папраўленыя, і БАПЦ магла-б стацца запраўды агульнай беларускай праваслаўнай царквсю. Сталася, нажаль, інакш. Фактычны кіраўнік БАПЦ еп. Васіль не аказаўся, аднак, на вышыні свайго становішча і, замест імкненьня да аб'еднаньня ў БАПЦ усіх праваслаўных Беларусаў, увязаўся ў палітыку, (больш дакладна: не патрапіў аддзяліць сваю палітычную прошласьць, ад свайго сучаснага становішча). У выніку гэтага, калі справу браць палітычна, сягоньня БАПЦ еп. Васіля — гэта экспозытура абрамчыкаўскага непрэдрашэнства ў духоўных справах. У сваім нутраным жыцьці БАПЦ таксама не зьяўляецца безваганнай. Епіскап Васіль не стараецца абаперціся на колы, якія былі фактычнымі аднавіцелямі аўтакефаліі, але, з увагі на лягчэйшую магчымасьць кіраваньня, апіраецца на людзей, прывязаных да літары і формы, для якіх найважнейшым ёсьць тое, каб у царкве ўсё было так, як у хаце. У хаце эвангельле чыталася па царкоўна-славянску, дык чаму мае быць інакш у царкве? Прыкладаў гэтага можна даваць многа.

Я ужываю тэрмін "Беларуская Аўтакефальная Царква" выходзячы з таго, што яна так фармальна называецца, ды выходзячы з прызнаньня, што яна зьяўляецца аўтакефальнай. Але такой яна зьяўляецца толькі з боку фактычнага. З боку-ж праўнага справа выглядае якраз наадварот.

Праўна БАПЦ еп. Васіля ў Амэрыцы — гэта звычайная, нават не аўтаномная частка Украінскай Праваслаўнай Царквы.

У заяве, унесенай да дзяржаўных уладаў дня 3-га красавіка 1952 г. спадарамі М. Гарошкаю, М. Дарашэвічам, Я. Ніхаёнкам, П. Бунчуком, О. Сурко, О. Стэльман і А. Орсаю, вышэйпералічаныя прасілі зарэгістраваць рэлігійную арганізацыю пад назовам Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, як Укрінскую Праваслаўную Царкву грэцкага абраду, згодна з арт. 8-а закону штату Нью-Ёрк аб рэлігійных арганізацыях. Артыкул 8-а гэтага закону мае выключнае застасаваньне да украінскай Праваслаўнай царквы і ў пункце 169-д гаворыць: "Царква, зарэгістраваная згодна з гэтым артыкулам павінна прызнаваць і быць падлеглай юрысдыкцыі праўна прзначанага епіскапа ці архіепіскапа Украінскай Праваслаўнай Царквы ў Амэрыцы". Іхная заява была здаволеная.

Такім чынам, праўны бок гэтай справы ясны: ніякай аўтакефальнай беларускай праваслаўнай царквы ў Амэрыцы няма, бо аўтакефалія палягае не на назове, а на непадпарадкаваньні іншай царкоўнай арганізацыі.

Хто за гэта адказны — ня ведаю: асобы, якія падпісалі заяву; тыя, хто гэтую заяву ўкладалі; ці тыя, хто аб гэтым ведаючы ад 1952 да 1959 г. маўчалі і сваю тайніцу ахоўвалі? Цэлы год ад 1959 г. маўчаў і я, але далейшае маўчаньне хіба ня будзе служыць агульнаму дабру, бо калі спачатку я думаў, што гэтая кампрамітацыя была вынікам ігнарацыі і недапушчальнага нядбайства, дык сягоньня я пачаў дапушчаць, што ў гэтым можа нешта крыцца, а што — час пакажа.

Палітычная сувязь БАПЦ еп. Васіля выклікала ўжо супроцьдзеяньне. Група Беларусаў, якія ўважаюць, што адзінай адпаведнай формай арганізацыі праваслаўных Беларусаў зьяўляецца свая назалежная царква, але якія ня могуць належаць да БАПЦ еп. Васіля, дзеля палітычных сувязяў апшняй, стварыла другую БАПЦ, на чале з еп. Уладзімерам Фінькоўскім. Паколькі аўтакефалія ня можа быць манаполем нейкай адной палітычнай групы, дык трэба прызнаць гэтую акцыю цалком у парадку. Неабхадна толькі зазначыць, што рэклямаваньне гэтай царквы, як такой, што знаходзіцца ў лучнасьці з Усяленскім Патрыярхам (відаць, для супроцьстаўленьня сябе іншым, якія ў гэтай лучнасьці не знаходзяцца), па-першае, выглядае на самахвальства, а па-другое, нязгоднае з праўдаю, бо, калі яна падпарадкаваная канстантынопальскаму патрыярху, дык у такім выпадку яна не зьяўляецца аўтакефальнай. Пра другую магчымасьць, што канстантынопальскі патрыярх прызнаў яе аўтакефалію, гаварыць ня прыходзіцца, на толькі гэтая магчымасьць не рэальная.

Апрача дзьвюх аўтакефальных цэркваў маем яшчэ парафіі ў беспесярэднім падпарадкаваньні экзарху Усяленскага патрыярха ў Амэрыцы. Хаця гэтыя парафіі і не называюцца аўтакефальнымі, але зьяўляюцца фактычна незалежнымі, бо, як ня ўмешваюцца украінцы ў нутраное кіраваньне БАПЦ эп. Васіля, так сама ня ўмешваецца ў нутраное жыцьцё парафіяў, фармальна яму падпарадкаваных, грэцкі экзарх.

Хаця найбольш пажаданым было-б, каб ніякая беларуская рэлігійная ці іншага характару аргнізацыя ня была падпарадкаваная іншанацыянальнай арганізацыі, як гэта ёсьць у выпадку парафіяў, належачых да грэцкага экзарха, з гэтым яшчэ можна пагадзіцца, прыймаючы пад увагу некаторыя элемэнты пачуцьця ніжшасьці, якія тут яўна ёсьць, і я-

кіх цяжка хутка зьмяніць, аднак ёсьць моманты, якія і гэта яшчэ пагаршаюць.

Епіскапы з Беларусі, што ”кананічна” далучыліся да Расейскай Зарубежнай Царквы, займаюць там адпаведныя пасады, прымаюць актыўны ўдзел у дзейнасьці гэтай шавіністычнай расейскай палітычна-рэлігійнай арганізацыі і, фактычна, няма ніякай патрэбы займацца іхняй далейшай кар’ерай. Той факт, што яны падпісалі дэклярацыю апошняга сабору Расейскай Зарубежнай Царквы, сьцьвярджаючы, у поўным сугуччу з таварышам Хрушчовым, што Расія — гэта астоя міру ў цэлым сьвеце і што яны сыны адзінага рускага народу, ні ў чым не зьмяняе іхнага становішча, а наадварот, хутчэй сьведчыць аб іх дадатна, паказваючы, што яны служаць новаму пану сумленна, чаго ня можна было сказаць за час іхнай сужбы ў Беларусоў.

Займацца б. епіскапамі з Беларусі ня было-б патрэбы, каб у Саўт-рывэрскім асяродзьдзі увесь час нанова ня высоўваліся заклікі да іх да павароту, каб не адбываліся іхныя візыты, багаслужбы, паездкі ў Канаду. Гэтыя падзеі сьветчаць або аб глыбокіх прарасейскіх сымпатыях, або аб поўным неразуменьні палажэньня. Калі гэта расейскія сымпатыі, дык было-б многа лепш, каб гэтыя сымпатыкі далучыліся да сваіх епіскапаў і да расейскай царквы, чым цягнуь туды цэлае асяродзьдзе, бо ў групе, якая мае прэтэнсіі лічыць сябе грамадзтвам, павароту для перабежчыкаў быць ня можа; гэтага вымагае грамадзкае здароўе. Каб нейкая група ізноў навязала сталы кантакт з епіскапамі Зарубежнай Расейскай Царквы, дык гэта згары выключала-б магчымасьць паразуменьня паміж групамі.

Акцыю айца Рыжага-Рыскага трэба прызнаць добрым адказам на дывэрсыйную вунійную акцыю каталікоў, але шырэйшага посьпеху спадзявацца цяжка, бо а. Рыжы-Рыскі, відаць, палічыў, што ягоная ступень нацыянальнай сьведамасаці — гэта агульная роўня, ала, нажаль, гэтак ня ёсьць.

В. Мікалаеня

# У ПАНЯВОЛЕНАЙ БЕЛАРУСІ

АД РЭДАКЦЫІ: Пададзены ніжэй матэрыял ня вычэрпвае поўнасьцю бальшавіцкай палітыкі на Беларусі, а падае толькі некаторыя факты, узятыя з газэты ”Звязда” за пэўны пэрыяд часу.

Чаловыя савецкія газэты, маскоўскую ”Праўду” і ”Ізвестія”, трапна схарактарызавалі савецкія абывацэлі, гаворачы, што дарэмна шукаць праўды ў ”Ізвестіях” і дарэмна шукаць ізвестій (вестак) у ”Праўдзе”. Гэта зусім зразумела, бо мэта савецкай прэсы зусім адумысловая і адменная ад мэты прэсы вольнага сьвету. Савецкая прэса ўся зьяўляецца прэсай ”казённай” — урадавай, якая служыць патрэбам палітыкі кіруючай клясы камуністычнай алігархіі ды расейскага імпэрыялізму. Яна зьяўляецца бізуном, які падганяе працоўных дзеля большае іх эксплёатацыі; яна служыць дурманом, што глушыць і атупляе вольную грамадзкую думку; яна ідзе ў авангардзе шматбаковага масавага савецкага тэрору, цкуючы тых, каго камуністычныя заправілы прызначылі на зьнішчэньне.

Выходзячая ў Менску на зрасейшчанай беларускай мове ”Зьвязда” зьяўляецца тыповай казённай савецкай газэтай, толькі правінцыяльнага характару ў параўнаньні да цэнтральных ”Ізвестій” і ”Праўды”. Афіцыйная менская ”Зьвязда” зьяўляецца ворганам Цэнтральнага Камітэту КПБ, Вярхоўнага Савету і Савету Міністраў БССР, але фактычна яна становіць мясцовы орган цэнтральнага маскоўскага ўраду. Толькі чытаючы паміж радкоў друку ды паміж думак дапішчыкаў, можна вышукваць кроплі праўды, якія зусім нявідочныя за бессаромнатэндэнцыйнай траскатнёй прапаганды. Затрымаемся над некаторымі з такіх праўдзівых здарэньняў.

## БЕЛАРУСЬ — КАЛЁНІЯ САВЕЦКАЙ РАСІІ.

Баларусь была сапхнёная на калёніяльнае становішча яшчэ царскай Расіяй і Савецкая Расія толькі працягвае далей гэту калёніяльную палітыку на Беларусі, стасуючы больш удасканаленыя мэтады. Дробную ілюстрацыю гэтага становяць бюджэтныя асыгнаваньні за 1959 г., якія становяць:



| | Бюджэт на 1959 г. руб.*) | Насельніцтва ў 1959 г. чал.**) | На 1 чал. руб. | % |
|---|---|---|---|---|
| РСФСР | 231,853,381,000 | 117,494,000 | 1,973 | 144 |
| БССР | 11,054,518,000 | 8,060,000 | 1,371 | 100 |

Такім чынам, на 1 жыхара Расеі прызначана на 44 % больш сродкаў, чым на 1 жыхара Беларусі. Агульная надвышка бюджэтных асыгнаваньняў для РСФСР, бярычы на ўвагу асыгнаваньні на чалавека, у параўнаньні да БССР, становіць агульную квоту 70,7 мільярдаў руб., што складае каля трацiны ўсяго бюджэту РСФСР. Такім чынам, у галіне капіталаўкладаньняў БССР застаецца далёка ззаду ад РСФСР.

Затое БССР зьяўляецца прынадным абшарам для выпампоўваньня аграрнае сыравіны і бязьмежнай эксплёатацыі беларускага народу. Так, у 1959 г. БССР датэрмінова выканала плян ”прадажы” збожжа дзяржаве. Агулам збожжа нарыхтавана на 1 мільён 416 тысяч пудоў больш, чым на гэту дату ў мінулым годзе (”Зьвязда” — 30 верасьня 1959 г.). Аб тым самым сьведчаць дадзеныя аб ходзе выкананьня пляну дзяржаўных закупаў прадуктаў жывёлагадоўлі ў 1959 г. і росьце пагалоўя жывёлы ў калгасах і саўгасах БССР (”Зьвязда” — 30 кастр. 1959 г.), як ніжэй:

| | мяса | малако | яйкі | воўна |
|---|---|---|---|---|
| % выкананьня пляну за 1959 г. | 92 | 96 | 104 | 79 |
| Адносіны % выкананьня пляну за 1959 г. да выкананьня за 1958 г. | 122 | 118 | 135 | 107 |

Пагалоўе жывёлы ў калгасах і саўгасах БССР на 1 кастр. 1959 г. у % да 1 кастр. 1958 г. падаецца наступна:

| Буйная рагатая жывёла | У тым ліку каровы | Сьвіньні | Авечкі | Птушка |
|---|---|---|---|---|
| 114 | 112 | 118 | 81 | 156 |

Як бачым, выцісканьне аграрнае сыравіны з Беларусі павялічваецца. Аднак, тут не падаюцца абсалютныя колькасьці ў адпаведных адзінках памераў, а гэта таму, што яны надта мізэрныя пры параўнаньні з адпаведнай прадукцыйнасьцяй экаміні вольнага сьвету і кампрамітавалі-б камуністычную сыстэму. Плян нарыхтовак ня выкананы, а гэта таму, што нормы эксплёатацыі Беларусі такія высокія, што пры ўсёй нагонцы маскоўскіх цівуноў беларускі народ не ў стане даць вымаганай даніны.

## ЛІКВІДАЦЫЯ МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ У БССР

Дробненькім шрыфтам, як відаць, сароммячыся, на канцы ”Зьвязды” з 21 лютага 1960 г., у нізе балонкі пададзена кароткае паведамленьне аб тым, што ўказам прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР касуецца Міністэрства Юстыцыі БССР. Заместа скасаванага міністэрства, савету міністраў БССР даручана ўтварыць юрыдычную камісію пры савеце міністраў БССР для вядзеньня працы па кадыфікацыі і сыстэматызацыі заканадаўства БССР, распрацоўкі праектаў заканадаўчых актаў і рашэньняў нарматыўнага характару ўраду БССР. Адначасна пастаноўлена ўнесьці на разгляд Вярхоўнага Савету БССР прапанову аб дакананьні адпаведных зьменаў у арт. 48 Канстытуцыі БССР і закон аб судовым ладзе БССР.

*) ”Зьвязда” — кастр. 1959.

**) Паводле перапісу насельніцтва ў СССР у студз. 1959 г.

Не прэзыдыюм Вярхоўнага Савету БССР вырашыў справу скасаваньня міністэрства юстыцыі БССР, а расейскі ўрад у Крамлі. Бутафорная БССР створана маскоўскім акупацыйным урадам і кіруецца ім праз прысыланых расейскіх камуністых. Наданьне, як і зьмены канстытуцыі БССР, зьмены тэрыторыі БССР з перадзеламі беларускіх этнаграфічных земляў паміж рознымі суседнімі народамі, большае ці меншае насільньне антыбеларускага тэрору ў БССР і г.п., — робяцца па загадах з Масквы. Беларускі народ, як і прызначаны маскоўцамі Вярхоўны Савет БССР з усімі фікцыйнымі дзяржаўнымі атрыбутамі БССР, — ня маюць ніякага фактычнага ўплыву на вырашаньне дзяржаўных спраў у БССР. Калі-б маскоўскі ўрад пастанавіў аб скасаваньні ўсяе бутафорнае БССР, то і ў гэтым выпадку Вярхоўны Савет БССР "аднагалосна" апрабаваў-бы гэту "мудрую" пастанову і ні адна рука ў БССР не паднялася-б у яе абарону. Чужое і варожае заўсёгды такім і застаецца.

Беларускі народ па сваей волі стварыў у 1918 г. сваю нацыянальную дзяржаву — Беларускую Народную Рэспубліку і збройна змагоўся за яе існаваньне.

## РУСЫФІКАЦЫЯ БЕЛАРУСІ

Русыфікацыя Беларусі праводзіцца шырака ўва ўсіх дзялянках народнага жыцьця, пры стасаваньні розных спосабаў. Асаблівая ўвага зьвернута на друк. У расейскай мове друкуецца на Беларусі ў некалькі разоў больш публікацыяў, чым на беларускай мове. У любым нумары "Зьвязды" бачым пацьверджаньне гэтаму. Так, за 24 кастр. 1959 г. "Зьвязда" паведамляе, што выпушчаны ў сьвет 2 кнігі на расейскай мове:

КПСС аб рабоце саветаў — 35,000 экз., 688 бал.,

Рыльскі — Літэратура і народ — 5,000 экз. 318 бал., і 4 кнігі на беларускай мове:

Ярош — Драматургія Я. Купалы — 5,000 экз., 148 бал.,

Даніленка — Майская навальніца — 5,000 экз., 148 бал.,

Пташнікаў — Зерне падае не на камень — 8, 000 экз., 280 бал.,

Сурначоў — Барвовая зара — 4,000 экз., 56 бал.

Калі падлічыць у гэтых публікацыях колькасьць балонак друку, то на расейскай мове выдрукавана 25,7 мільёнаў балонак, а на беларускай — толькі 3,9 мільёнаў балонак. На расейскай выдрукавана больш у 6,6 разоў, чым на беларускай мове. Прыблізна такую прапорцыю атрымаем у паведамленьнях аб іншых выпусках друку ў БССР, напрыклад "Зьвязда" — 27 сьнеж. 1959 г. і ін.

У дадатку Беларусь заліваецца расейскімі публікацыямі, прывожанымі з Расеі. А ўпраўленьне кнігагандлю галоў - выдавецтва Міністэрства Культуры БССР адчыніла падпіску на расейскія публікацыі: Г. Плеханава, М. Горкага (18 томаў), А. Чэхава (12 томаў), школу выяўленчага мастацтва (9 выпускаў) — паводля "Зьвязды" — 29 сьнежня 1959 г.

Асабліва вымоўным зьяўляецца плян працы Дзяржаўнага Выдавецтва БССР на 1960г. ("Зьвязда" — 31 сьнеж. 1959 г.). Выдавецтва пляное значна павялічыць тэматыку друкаваных кніг. Будзе выдадзена 428 назоваў кніг і брашур, агульным тыражом на 5,126,000 экз. Аднак, тэматыка, як і мова праектаванага пляну ў вялізнай бальшыні не беларускія, а савецка-расейскія. Выйдзе 39-ты том твораў Леніна і рад кніг і брашур да 90-ці годзьдзя нараджэньня Леніна; нарысы гісторыі Беларусі (1883—1918); аб партызанскім руху на Беларусі ў 2-ю Сусьветную Вайну; пытаньні барацьбы за выкананьне 7-мі гадовага пляну; "Аснаўная эканамічная задача СССР і важнейшыя шляхі яе вырашэньня" — Гаеўскага; "Барацьба рабочага класа Беларусі за разьвіцьцё машынабудаўніцтва ў пасьляваенны пэрыод" — Кудрашава. Асаблівая ўвага прысьвечана брашурам аб партыйна-арганізацыйнай, палітычна-масавай і прапагандовай рабаце. Прадбачана выданьне бібліятэчкі атэіста.

З мастацкай літаратуры побач расейскіх клясыкаў, выйдуць творы братніх рэспублік — Украінскай і Польскай.

Заплянавана выдаць 94 назовы твораў пісьменьнікаў Беларусі, а сярод іх Брыля, Лужаніна, Русака, Крапівы, Кулакоўскага, Міронава, Садковіча, Селіверстава, Шахаўца, Вялюгіна, Прыходзькі і інш. Сярод гэтай групы твораў пісьменьнікаў Беларусі маюцца з такой "беларускай" тэматыкай, як "Вецер з Волгі" — Вялюгіна.

Характэрна, што ў сучаснай Польшчы, дзе націск Масквы на нутраныя культурныя справы трохі слабейшы, штогод выпускаецца да 90 мільёнаў экз. кніг, а ў мінулым годзе выпушчана каля 4,500 назоваў кніг ("Зьвязда" — 4 студз. 1960 г.). На чалавека ў Польшчы выдаецца ў 5 разоў больш кніг, чым у БССР.

## АНТЫРЭЛІГІЙНАЯ АКЦЫЯ У БССР

У сваім манэўраваньні, пры апаноўваньні вольнага сьвету, урад Савецкай Расеі часова спыніў вымардоўваньне рэштак уцалелага духавенства і поўную ліквідацыю царкоўнага жыцьця як у СССР, так і ў нядаўна апанаваных краінах. Праваслаўная і баптысцкая цэрквы выкарыстоўваюцца для дэманстраваньня нібы рэлігійнай свабоды пад камунізмам, а фактычна — для агэнтурнай савецкай работы. Аднак, уціск, прасьлед і скаваньне рэлігіі, як такой, працягваецца бязупынна.

У "Зьвязьдзе" з 12 сьнеж. 1959 г. у артыкуле — "На ўзбраеньне атэістам", пішацца: "Рэлігія — адзін з найбольш ганебных і жывых перажыткаў мінулага. Яна — змора і цемра, кайданы на руках і сьведамасьці веруючага..."

У "Зьвязьдзе" з 15 сьнеж. 1959 г., у артыкуле — "З сэктантамі мне не па дарозе", праводзіцца цкаваньне баптысцкіх прапаведнікаў, частка якіх вытрымала шматгадовую катаргу ў канц-лягерох і вярнулася ў БССР, як: А. Кецко, І. Панько і інш. Газэта піша: "Духоўныя настаўнікі баптыстаў ня толькі займаюцца заманьваньнем людзей у сваё чорнае павуціньне, яны яшчэ ўзводзяць паклёп на Савецкую ўладу, як гэта робіць прапаведнік Бокун С. І."

Чарненьне рыма-каталіцкай царквы так сама працягваецца. За подпісам Д. Бясчаснага, былога выхаванца папскай духоўнай акадэміі ў Ватыкане, зьмешчаны ў "Зьвязьдзе" з 7 студз. 1960 г. артыкул: "Ватыкан, якім бачыў яго я сам". Там падаецца цэлы шэраг тэндэнцыйна падабраных фактаў сумніўнай праўдзівасьці, якія чэрняць высокіх дастойнікаў рыма-каталіцкай царквы і якіх ніхто і ніяк ня зможа спраўдзіць.

У БССР ладзяцца лекцыі на антырэлігійныя тэмы, як напр.: "Ці існаваў Ісус Хрыстос", "Ці прыносіць шкоду рэлігійнае сьвята" і г. д. ("Зьвязда" — 6 студз. 1960 г.). На антырэлігійныя тэмы пішуцца артыкулы ў часапісы, як напр.: "Яны калечуць дзіцячыя душы" і інш. Антырэлігійнай акцыі прысьвечаны вялікія кнігі, як напр.: "Камуністычная партыя і Савецкі ўрад аб рэлігіі і царкве" — 200,000 экз., 120 стар. ("Зьвязда" — 27 сьнеж. 1959 г.).

Хрушчоўская "адліга" ў рэлігійнай справе — гэта звычайны ашуканчы тактычны ход для мала паінфармаваных.

## ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫЯ У БССР

"Зьвязда" з 2 сакав. 1960 г. у артыкуле "Імклівыя крокі індустрыі" паведамляе, што ўдзельная вага прамысловай вытворчасьці ў БССР у 1958 г. была 62%, а сельска-гаспадарчай — 38%. Разьвіліся: энэргэтыка, машынабудаваньне, паліўная, хімічная, лёгкая, харчавая вытворчасьць і іншыя галіны. За апошнія 4 гады выпуск прамысловай прадукцыі павялічыўся ў 1,6 разоў. Выпрацоўка электроэнэргіі ў БССР ад 1955 г. павялічылася на 70%. Абсалютныя лічбы вытворчасьці не падаюцца, бо, хіба, збыт мізэрныя. Аб гэтым найлепш сьведчыць наступнае.

Адна беларуска з ЗШПАмэрыкі паслала сваей сваячцы ў БССР хатнюю машыну для шыцьця з электрычным маторам для руху. Аднак, улады на мейсцы забаранілі ўжываць электрычны матор з-за недахопу электроэнэргіі.

Працэнтавы пыл нікне сам сабой, калі даведаемся з тэй-жа "Зьвязды", што электроэнэргіі далёка не хапае для задавальненьня патрэбаў; што работа па нарошчваньню энэргэтычных магутнасьцяў праводзіцца нездавальняюча; што маецца многа сур'ёзных недахопаў на будаўніцтве Бярозаўскай ДРЭС; што зацягнулася заканчэньне Васілевіцкай электростанцыі; што парушаюцца тэрміны ўводу ў эксплёатацыю раду важнейшых высокавольтавых ліній электроперадач; што ў мінулым годзе ня выканалі

вытворчых заданьняў 240 прадпрыемстваў; што шмат турботаў будаўнікам прыносяць бракаробы будаўнічых дэталяў, вырабляных з вялікімі дэфэктамі; што кіраўнікі галоўную ўвагу зьвяртаюць на выкананьне пляну па колькасных паказчыках, не клапоцячыся аб якасьці вырабаў, і г. д. і г. пад.

Аднак, як бачым, са "Зьвязды" з 4 сак. 1960 г., гэтыя вялізныя недахопы ў БССР поўнасьцю раўнаважацца посьпехамі ў РСФСР: пасьпяховае будаўніцтва чыгуначнай магістралі АБАКАН-ТАЙШЭТ; збудаваньне вялізнага маста праз раку Янісэй у Сібіры, заводаў у Чэлябінску і на Урале і г. д., фото якіх часта пацяшае вока беларускага чытача "Зьвязды".

## ДЭПАРТАЦЫІ БЕЛАРУСАЎ ПРАЦЯГВАЮЦЦА

"Зьвязда" з 31 кастр. 1959 г. паведамляе аб беларусах, працуючых у Іртышскім раёне, Паўладарскай вобласьці — у далёкай Сібіры.

"Зьвязда" з 9 сьнеж. 1959 г. піша аб вёсцы Гальшаны, Ашмянскага раёну, пад Вільняй, што зараз гэта вёска не тая, якою была раней, і людзі ня тыя: дзеці пастуха Адашкевіча знайшлі месца ў жыцьці — дачка працуе ў сельпо, а сын асвойвае цалінныя землі.

З дэпартаваных беларусаў расьце цэлы горад беларускіх шахцёраў Салігорск ("Зьвязда" — 4 сак. 1960 г.).

## КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАНШЧЫНА

Досьць часта на балонках "Зьвязды" спатыкаюцца фото прыгожых беларускіх дзяўчат, нагадваючых выглядам добра ўтрыманых артыстак, з подпісамі, што гэта гэроі савецкай працы: сьвінаркі, даяркі, прадзільшчыцы, трактарысткі, швачкі і г. д., або — маладых хлапцоў, як лепшых птушкаводаў, мэханізатараў, муляроў і г. д. Падчас паншчыны польскі пан заахвочваў сваіх беларускіх падданых да прымусовай працы словам, трымаючы блізка сябе цівуна з бізуном. Савецкія камуністыя зараз заахвочваюць беларускі народ да прымусовай працы больш мадэрнымі прапагандовымі мэтадамі, трымаючы пад рукой спэц-аддзелы з узброеным МВД. Сутнасьць паншчыны, як і мэтады яе рэалізацыі застаюцца тымі самымі і пры сучасным камуністычным ладзе.

## РАСЕЙСКІ ІМПЭРЫЯЛІЗМ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Выступаючы на XXIV зьезьдзе Камуністычнай Партыі Беларусі, сакратар ЦК Мазураў сьцьверджаў: "... Па ранейшаму важнейшай задачай ідэолёгічнай работы зьяўляецца непрымірымая барацьба супроць буржуазнай ідэолёгіі... Кампартыя Беларусі пад кіраўніцтвам ЦК КПСС будзе і надалей высака несьці ленінскі сьцяг, актыўна змагацца за далейшае ўмацаваньне магутнасьці нашай сацыялістычнай дзяржавы, за перамогу камунізму ў СССР". ("Зьвязда" - 18 лют. 1960 г.).

Мазураў не прэцызуе гэтай жывучай у беларускім працоўным народзе буржуазнай ідэолёгіі, з якой камуністыя змагаюцца на працягу 42 гадоў, маючы зараз дачыньне з новым пакаленьнем, якое вырасла ў савецкіх, а ня ў "буржуазных" абставінах. Як ведама, гэту "буржуазную" ідэолёгію камуністыя налепліваюць самым элемэнтарным нацыянальным і людзкім дамаганьням беларускага народу, стараючыся іх поўнасьцю вынішчыць. Сучасная расейская імпэрыя — СССР патрабуе ператтварэньня беларусоў у паслухмяных гэлотаў, а Беларусь — у адвечную расейскую зямлю. Расейская імпэрыяльная палітыка не зьмяняецца і не слабее.





## УЛ. КЛІШЭВІЧ

*
* *

Шчабятала сініца няўзнак,
Што здараецца гэтак і так.

І людзям і сабе на бяду,
Залатую капаў я руду.

Хто адведаў турмы і кайла,
Таго кветка навек адцьвіла.

Ня ўздыхала яна ля варот,
Не чакала на хуткі зварот.

Ад самога сябе не зьбяжыш, —
Палажы на няведамым крыж.

Ня мудруй, ня круці, не грашы,
Так сьпявай, як лягло на душы.

Сам сабе я заўсёды пяю,
Выварачваю душу сваю.

Вуха рэжа мой прыкрасьцю сьпеў,
А таму, што сьпяваў, як умеў.

Хоць шчабеча сініца няўзнак,
Што здараецца гэтак і так.

24 студзеня 1960 г.

### КАНЦОНА

Балюча жаліць думак звонкі рой.
Адну, бы пчолы матку, я кунежу:
Міндоўга замак, пушчу Белавежу
Пабачу, і пад Лысаю Гарой

Заслухаюся жаўруковаю ігрой
На досьвітку, румянкавым а сьвежым,
І вобраз мілы дзіўнаю мярэжай
Запоўніць сны пад ціхаю зарой.

*
* *

П. МАНЬКОВУ

Пачарнеў на небе колер сіні,
Я стаю прыціснуты ў куце.
Гойдаецца д'ябал на асіне,
Па жывых людзях хвастом мяце.

Ноччу сьвет гарыць на жухлым тыне,
Патанулі ў цемры сонца прамяні.
Усіх тых, чыя душа астыне,
Як нябожчыкаў навечна памяні.

Хоць труна і мне даўно гатова,
Усьміхаецца вясёлы май.
Пра мяне, глядзі, ні слова,
Як нябожчыка, не памінай.

На цябе ня каркаю за гэта,
Што цярпеньне выперла з пары;
Як гара ня йдзе да Магамэта, —
Магамэт пляцецца да гары.

16 сьнежня 1958 г.

## МІХАСЬ КАВЫЛЬ

Ды вось цыганка не прарочыць шчасьця:
На стол упала карта чорнай масьці...
Ня ў кветках сьцежкі на чужой зямлі.

Каля Вагэзаў, Альпаў, над Гудзонам...
Куды-б шляхі нядолі ні вялі, —
Яна са мной, усіх паэм канцона.

1959 г.

# МІХАСЬ КАВЫЛЬ

## ВІЛЬНЯ

На захад з торбай суму, гневу
Ішоў я Гострай Брамы міма.
Абрушваў вачар зор улеву
На Вільні шэрыя кілімы.
Ня спала Вільня. Сны трывожыў
Адгук глухі грымотаў блізкіх.
Ціша зьвінела ў настарожы
Паміж крыжоў і абэліскаў.
Зырэла зарыва ў аддалі,
Дзесь агрызаліся "гэвэры".
Адны разбойнікі ўцякалі,
Другія стукаліся ў дзьверы.
У абдыме стомы і самоты,
Ня я адзін, прагнаны рыцар,
Схаваўся ў могілак цянёты
Пра незабыўнае забыцца.
На грудзях прашчураў далёкіх —
Няхай даруюць: бяз іх згоды —
Адчуў я зноў спакою дотык,
Ліствы зялёнай цёплы подых.
Ды сон ня йшоў. Блукаў ён дзесьці
Па Менску, вогнішчах, руінах.
А тут, у гэтым ціхім месьце,
Вадзіў яга Францыс Скарына.
Ішоў ён думны па Антоклі
І мерыў літарамі зоры.
Вунь там, дзе хмары ў сіньцы змоклі,
Няпоўны месяц цяў вузоры.
Першадрукар рукой умелай
За словам клаў сьвятое слова…
Мой сон, як сьвечка дагарэла,
Пайшоў па пляцы Мураўёва.
Не затрымаўся каля "шышкі":
Абрыдла з бронзы морда ката.
Сьпяшаўся трапіць на Лукішкі,
Дзе адбывалася расплата.
І валасы ўзьняліся дыбам:
На склютам зраненыя дошкі
Узышла нязьмераная глыба —
Кастусь Сямёнаў Каліноўскі.
Вяроўка сьвіснула у мыле,
І галава на грудзі ўпала…
Каб Беларусь не задушылі,
Загаласіў Янка Купала.
І сон паплёўся на курганы,
Каб прыслужыцца там прароку…
Так я, у Вільні незабранай,
Пачуў краіны роднай крокі.
Ужо й на золак занялося,
І далеч невядзі ня страшыць.
А тры крыжы — мо' так здалося? —
Мне наўздгонкі: "Вільня наша!"

4 сакавіка 1960 г.

## СЛУЧЧАКІ

"Ж. Б."

Прыемна мне і ганаруся нават,
Што й я са Случчыны — случчак.
Гэрояў Слуцкіх мяне водзіць слава
Па ўзвышшы гонару — затак.

Яны ішлі штыхоў, агнёў насустрач,
Жыцьцё нясьлі ідэі ў дар.
У чыну іх скрываўленага люстра
Гляджуся ўпатайкі, змагар.

Ня я, ня я — засьвідзелая пляма
Паўзе няўпрыкмецьь, спакваля.
А нехта мой шпурляе ў далеч лямант,
У дом благі спісаў зямляк.

Яму лягчэй з кары агаў высмоктваць
На Капры дзесь Эрота сок,
Ці, на скалу ўзабраўшыся высока,
Пяяць пра Слуцкі паясок.

А ты пайдзі спрабуй пастой у Форда
На тым канвээры цалюткі дзень;
Я пагляджу, якім ты станеш лёрдам,
Пра вусны ці успомніш, дабрадзей?

Другому гуз памехай палітычны
Мадону славіць з высі гор.
Бы той ардэн, ламовы, непрактычны,
Нажыў і ён на сьпіне горб.

І трэці ёсьць. Адной нагой у прыйсьці,
Другой у сёньняшнім увяз:
На ўсе пэдалі цісьне без карысьці
Вызвольны марш за сказам сказ.

А той, што зьведаў сьцежкі ўсе, дарожкі,
Калі пылае Случчына ў агні,
Шуміць пахілай, ціхаю валошкай
Сярод чужых, неураджайных ніў.

Усіх сабраць, пабудаваць па росту —
Раўняць ня трэба: як адзін —
На душах войных наскраблі каросту,
Чакаючы ўсё тых гадзін.





АЛЕСЬ ЗМАГАР

# ЛЕСАВІКІ

— I —

Вечарэла. Сурова насупіўся сівы магутны бор, маўчыць, не шалохне галінкаю. Пільна ўзіраецца з—пад нахмуранае брывы на разасланы наўкола мяккі мохавы дыван, на пачарнелыя ў балоце нявысокія стажкі сена. Дзесь у гушчары хруснула сухая лапка, і зноў цішыня. Цішыня да болю, нібы ў цудоўным казачным, поўным чароўнай таямнічасьці, царстве.

Зноў хруснула галінка, расхіліліся кусты, і на палянку вынырнула некалькі дзесяткаў цёмназагарэлых ад сонца і ветру, з густа аброслымі ад часу тварамі, моцных лесавых валадароў. Апранутыя ў рознакаляровую, напаўабдзёртую, але нібы найлепшымі краўцамі дапасаваную вопратку, яны лёгкімі зданямі хутка пасоўваліся наперад, дапаўняючы жудасна-дзівосную маляўнічасьць і без таго таямніча-жахлівага лясного царства.

— Хто гэта? Людзі ці лясныя істоты?

Наперадзе ўпэўнена — цьвёрдаю ступою крочыў высокі, касьціста-мускулісты, нібы выкуты з жалеза, асілак. Яго пачарнелы твар густа абляпіла чорная, як смоль, барада. Скрозь навіслыя парыжэлыя ад сонца вейкі гостра калолі блізкучыя праніклівыя шэрыя вочкі. Загадны голас дапаўняў вала дарную моц лясного асілка.

— Зброю ў козлы! — адсек барадач. — Варта на месцы!

І ажыла заўсёды ціхая палянка. Хто дровы сячэ, хто гальлё падносіць, хто агонь раскладае. А неўзабаве і смачны пах смажаны пачаў расплывацца па палянцы, прыемна казычучы ў носе. Адзі за адным падыходзілі лесавікі да вогнішча і, змораныя доўгімі і цяжкімі ў бесперапынных баёх пераходамі, падсілкоўваліся і падалі, нібы забітыя.

Усё больш і больш разгараецца полымя і, ліжучы паветра сваімі агніста-жоўтымі языкамі, пырскае ўгару залацістымі іскрамі. І срабрыстым сьмецьцем рассыпаюцца яны над пачарнелаю канаўкаю ды, быццам у люстра, заглядаюцца ў празрыста-сьветлыя хвалі крынічнай вадзіцы. Часам, пранясецца жартаўлівы ветрык, кране сваім подыхам сонна-зьвіслыя галінкі дрэў ды раптам, нібы ненаўмысна, дзьмухне зьнячэўку на вогнішча. І шугане полымя спачатку ў адзін бок, потым у другі, нарэшце, узьняўшыся ўгару, сьлізганецца сваім ясным позіркам па затоенай у непраходным гушчары палянцы. Весела патрэскваюць перасохлыя сучкі і галінкі. Дрэмлюць змораныя лесавікі, хто наўкола вогнішча, хто прытуліўшыся да купіны ці кусьціка — хто дзе. Чароўна, нібы ў байцы. А над усім гэтым прыгожая стромкая жанчына, красачна выдзяляючыся нават у гэтым маляўніча раскіданым рознака ляровым натоўпе, лёгкім поступам хутка наблізілася да вогнішча.

— Фея… Лясная фея…

Яе цёмныя няслухмяныя пасмы кучаравых валасоў, пацьвельваючыся з гульліва-

бессаромным ветрыкам, спаўзалі карсткімі завіткамі, лёгка казычучы смугл-загарэлы тварык. Тонкі, трохі задзёрты носік з часта рухаючыміся ноздрамі, вясёлыя ямкі на прывабных шчочках, пяшчотнасьць погляду ды пунсовыя складзеныя, нібы для пацалунку, вусны выклікалі ў кожным жыватворчую крыніцу бадзёрасьці.

І ветліва ўсьміхаліся аброслыя твары, пазіраючы на лясную фею. І забываўся цяжар доўгіх пераходаў, і зьнікала зморанасьць. А што толькі ні зрабіла-б яе мімалётная ўсьмешка, чароўны погляд?

Ды ці адно закамянелае сэрца пачынала мацней біцца пры яе набліжэньні, але ніхто ня сьмеў нават падняць на яе вачэй, поўных пажаданьня.

Маланкавым позіркам акінула зморaных лесавікоў.

— Браты беларусы!

Яе вочы ліхаманкава блішчэлі, голас ірваў паветра.

— Заўтра 25 САКАВІКА. Гэтай ночы мы мусім ізноў напомніць чырвоным маскалём аб рашучасьці беларускага народу ў яго барацьбе за вызваленьне з-пад чужацкае апекі. Жыве Беларусь!

— Жы-ве-е!... — гулка пранеслася па лагчыне, адгукнулася грозным рэхам на ўскраі лесу, замёрла ўдалячыні.

— II —

Вогкая ціхая ноч паволі спаўзала на маркотна заклапочаную маці-зямельку. Лёгкаю крысаю свае чорнае вопраткі даткноўшыся да гойных верхавін спахмурнелага ў нетрах гушчарнага бору, пяшчотна агарнула яго сваею цёмна-бархатнаю чароўнаю сукенкаю. Выглянуў на хвілінку задумлівы месячык-поўнік, каўзануўся сваім малочным позіркам па сонных лапках дрымотна зьвіслых галінак, зазірнуў на затоеную палянку ды борздзенька схаваўся за суседнюю вандроўніцу-хмарку, каб праз нейкую хвілінку зноў неспадзеўкі выглянуць із свайго схованішча ды поўнаю жменяю рассыпаць свае сьветла-жоўтыя косы на зморaную ад дзённых клопатаў, сонна-застылую зямельку.

Пранёсься жартаўлівы ветрык, скалыхнуў некалькі млявых галінак, і зноў цішыня. Дзесь узьнялася спалоханая птушка, з шумам праляцела цераз палянку і цяжка апусьцілася на дрымотную хвойку. Хілячыся адна да аднэй, зашапацелі лапчастыя галінкі аб вялікай крыўдзе, прынесенай чужынцамі ў іхны працавіты край. І пад гэтую жаласную сум-песьню неспакойны сон спавівае сыноў лесу. Дзесь далёка прапеў першы певень. Здрыганулася ўсім целам маладая жанчына, закалацілася, нібы ў ліхамацы. Цяжкаю мараю насунулася на яе даўно перажытая страхатлівая ноч.

... Яна — маленькая Настулька, ляжыць сабе на сваёй цёплай пасьцельцы. Раптам у яе дзяціную галоўку наплываюць нейкія жахлівыя думкі, запаўняюць яе, ператвараюцца ў зданьні, неадчэпна кружацца перад вачыма, не даюць ёй заснуць. І шчыльна туліцца малая да свае пульхнае падушкі, шукаючы ў яе паратунку... Ды неспадзеўкі бліснула ў шыбу прарэзьлівае сьвятло, слізганулася па сьцяне і раптам зьнікла. Толькі каля плоту штосьці злосна загучэла. Усхапіліся бацькі і ўліплі ў ваконца. Стрымгалоў да мамкі кінулася Настулька, ушчаперылася ў спадніцу ды зазірнула ў вакно. Каля іхнага двара спынілася чорнае аўто. Выскачылі зь яго цёмныя цені, хутка замітусіліся каля варотаў ды зьніклі ў суседнім панадворку. А назаўтра Настулька даведалася, што гэта быў драпежны "Чорны Воран", які схапіў іхных суседзяў. Загінула цэлая сям'я і яе найлепшая таварышка Волька. А за што?... За што-о-о?...

І з таго часу штоночы жудасныя мары неадчэпнымі зданямі кружыліся перад вачыма Настулькі, не давалі ёй спакойна заснунь. Глыбока ўнурыўшыся ў пульхную падушку, моцна заплюшчыць вочкі, баіцца адарвацца. Але час-ад-часу вочкі самі-пасабе расплюшчацца. Яна хуценька кіне позірк наўкола і ... з усіх куткоў паўстаюць страшныя здані, паўзуць і паўзуць па сьцяне. Працятая бязьлітасным жахам, як асінавы ліст, калоціцца Настулька, зноў заплюшчвае вочкі. Не памагае. Вось каля самых дзьвярэй паўстае і штораз выразьней вырысоўваецца нейкі драпежны цень... Набліжаецца да Настулькі... Яна працягвае наперад дрыжучыя ручкі... адштурхоўвае яго... І ўсё гіне... Ды ня гіне... Зноў на сьцяне мярэшчацца нейкія здані, набіраюць усялякія хвормы, цягнуцца да дзяўчынкі... Злосна выскаляецца ваўкалак...



— А-а-ай! — спалохана вырвалася ў дзяўчынкі

— Бог з табою! — перахрысьціла, прахапіўшыся маці. — Чаго ты, дачушка?

— Мо хворая? — азваўся бацька.

І раптам сьцішылася. Прыслухаліся: недалёка зноў злосна гурчэў матор. "Чорны Воран", нібы драпежны вупыр, зноў бязьлітасна хапаў сваю ахвяру.

— О, Божухна! — горка ўздыхнула маці. — І калі ўсё гэта скончыцца?

— Не маракуй, — каўтаючы словы перарваў бацька ды абарваўся.

*
* *

— А-а-ай! — Застагнала жанчына і прахапілася. Палахліва азірнулася наўкола: лес... вогнішча... лесавікі... свае...

А сэрца, як калісьці ў маленькае Настулькі, гэтак грукае ў грудзёх, што здаецца вось-вось выскачыць або разарвецца.

— Згінь!... Прападзі! — сплюнула жанчына, усхапілася, набрала гальля, падкінула ў вогнішча і заглядзелася на прыгажунькі іскаркі, што залацістым макам раз-по-раз успырхвалі ўгару. Трохі супакоілася, прысела, задумалася.

— Дзяцінства, дзяцінства!... Не залатое... Горкае... Страхатлівае...

*
* *

А думкі плывуць і плывуць. Яна — камсамолка, студэнтка III-га курсу Пэд. вучылішча. Ён — студэнт Б. Дз. У. Была васна. Зелянела шоўкавая травіца. Пукаліся галінкі дрэўцаў. Пяшчотна ўсьміхалася ласкавае сонейка. Парк імя Горкага... Першая сустрэча... Потым? ... Кіно "Спартак". Заміж абрыдлай прапаганды соцспаборніцтва і будаўніцтва, убачыла фільм глыбока псыхолёгічнага зьместу. Моцна працятая роспаччу аднае маладое жанчыны ад перажываньняў супярэчлівасьці ў пачуцьцях каханьня, гонару і самаахвяраваньня. І на хвіліну забылася школа, залікі, і ў дзіцячым сэрцы ўспыхнулі зусім новыя, яшчэ незнаёмыя салодкія пачуцьці. Бліскучыя пэрлінкі часта наплываюць у яе ваччу.

Кончылася кіно. Яна нэрвуецца. Час-адчасу на вейкі наплываюць празрыстыя сьлязінкі. А ён?... Разгублена пазірае то на яе, то наўкола. Ня ведае з чаго пачаць. Які сьмешны!... І яна звонка сьмяецца зь яго ніякаватасьці. Зазірае яму ў вочы. Ён ня ведае, дзе падзець свае рукі, робіць некалькі бязглуздых крокаў. І яшчэ званчэй яна сьмяецца. Яна добра разумее, што яе стромкі, прывабна-гнуткі стан, пяшчотная ўсьмешка каралавых губак, задзірлівае зьзяньне бліскучых вочак моцна хвалююць яго.

І яна гуляе зь ім, як кошка з мышшу. Солдзка казычучы яго спакусьлівым бліскам сваіх блакітных вочак, яна не заўважыла, як з кожным днём ён станавіўся для яе ўсё бліжэй і бліжэй. Хацела яна таго ці не хацела, яе вочы мімаволі шукалі яго, і пры раптоўнай сустрэчы нейкі салодкі чад агортваў усю. Яна ўпівалася яго позіркам. Сэрца то моцна калацілася, нібы хацела вырвацца з распалымнелых грудзей, то замірала салодкаю млявасьцю.

Ноч. Ня сьпіцца Настульцы. Так і стаіць ён, нібы жывы, у вачох. Змружыла вочкі. Умроілася. Салодкі непакой агарнуў яе пругкае цела, сэрца забілася моцна, моцна, грудзі ўздымаліся ўгору, прасілі пяшчотаў. І ёй здавалася, што ён, нібы цудоўны лыцар, ніжэй і ніжэй нахіляецца да яе, ласкава дакранаецца яе атласных грудзей, гарачымі вуснамі ледзь-ледзь датыкаецца да яе палымнеючага твару, соладка шэпча...

Яна кідаецца цэлую ноч. Ня можа заснуць. Перад вачыма толькі ён — цудоўны лыцар. Яго сінія вочы з-пад чорных вейк, здавалася, юрлівай асалодай нізалі яе. Часам ахоплівала дрымота. Але яшчэ бліжэй адчувалася яго постаць, гарачы дотык рукі, спакусьлівыя вусны, салодкі пацалунак. Прахапілася. Запаліла сьвятло, зазірнула ў люстэрка і адхіснулася: вар'ятка!... уся дрыжыць, палымнее твар, а ў ваччу?...

Хуценька ўскочыла ў пасьцельку, заплюшчыла вочы, умроілася. Грудзі дрыжэлі, распаленыя няведамым трымценьнем пажадлівага агню. Яна моцна сьціснулася ў клубочак, здрыганулася. Прыемна хвалюючы лоскат салодкай млявасьцю расплыўся па ўсім целе.

І з тых пор ноч ня прыносіла ёй адпачынку. Балючы жар каханьня не даваў ёй супакою, і на раніцу яна адчувала сябе яшчэ больш змучанаю.

— Не, не і не! Гэтак не магчыма...

І яна пачала ўнікаць сустрэч. Але думкі, неадчэпныя думкі толькі несьліся да яго. І яна адчувала, што зараз-жа пры першай сустрэчы зь ім, яна ня вытрымае, пабяжыць за ім. Разгубленая, спалоханая, яна ня ведала, што рабіць.

Аднойчы па абедзе хтось груknуў у дзьверы. Настулька выскачыла. Лістаноша. Сэрца трывожна забілася. Парыўчаста схапіла ліст, забыла падзякаваць, ліхаманкава разадрала канвэрт, прабегла вачыма. Запрашае ў летні тэатр у парку "Горкага". Ён... І захвалявался. Бегае, не знаходзіць месца. Як доўга цягнецца дзень.

Вечар. Ішла вельмі хутка, нэрвова. Твар распалымнеўся, у ваччу і баяскасьць, і сорам, і жаданьні.

Сад "Горкага". Хутка, амаль бегма, сьпяшаецца яна да знаёмае лавачкі. Вось і ён. Падала абедзьве рукі і зьняможана спынілася.

— Прышла-а, — вырвалася ў яго, і з запалам схапіў яе, моцна прыціснуў да сваіх грудзей, абсыпаў палкімі пацалункамі.

Заскочаная выбухам чуласьці, разгубленая стаяла Настулька, блядая, нярухомая. Яна не знаходзіла ў адказ ні аднаго слова, толькі палымнеючыя грудзі то хутка ўздымаліся ўгору, то раптоўна ападалі ўніз, ды сэрца неяк соладка млела.

— Ня гневаешся? — прашаптаў ён.

— Не, — адказала вачыма, і раптам моцна прытулілася да яго грудзей.

Узрушаны неспадзеўкай шчасьця, схапіў яе ў моцныя абдымкі.

— Люблю... люблю... — пырвалася ў яго. — А ты?

— Цябе кожная пакахае, а я... — і наблізіла свой палымнеючы твар да яго твару, моцна прыціскаючыся да яго грудзей, упілася доўгім пацалункам.

Яня лашчылася, нібы распешчаная кошачка, пяшчотна прыціскаючыся да яго ўсім сваім пругкім целам, і раптам зьнямоджана апала.

*
* *

Ішлі дні. Ня йшлі, а беглі. І вось апошняе спатканьне. Ён хутка ідзе. Твар расхвалёваны. Моўчкі спыніўся. Нэрвова паціснуў руку. Доўга пазіралі адзін на аднаго. Баялася запытацца. Сэрца трывожна прадчувала нядобрае. Прыхіліў да сябе. Пацалаваў. Цалаваліся, як ніколі, не адрываючыся, у засос, заныраючы ўва ўсю саладосьць чароўнага царства каханьня. А потым?...

— Бывай, Настулька!

Засмучана разьвітаўся ён.

— Мне пара. Мабілізаваны. Заўтра ад'яжджаю. Не забывай... Пішы...

Яшчэ раз моцна, моцна прыцінуўся, упіўся доўгім пацалункам і, раптам адарваўшыся, хуценька пайшоў па сьцежачцы.

Настулька стаяла нярухомая. Нібы скамянела. Халодныя дрыжыкі пранізвалі ўсё цела, курч сьціснуў горла, буйныя сьлёзы залілі ўвесь твар.

— Паветра-а!

Яна ірванула за каўнерык блюзкі і глыбока ўздыхнула.

*
* *

Вайна. Немцы. Яна — сяброўка С. Б. М. Вясковыя хлопцы, хто ў беларускай Самаахове, хто ў паліцыі. Зьнік "Чорны Воран", ды заміж яго зьявіліся "сталінскія банды". Поначы гюйсаюць па вёсках, паляць школы, вынішчаюць лепшых беларускіх сыноў і дачок, правакуюць немцаў супроць мірнага беларускага насельніцтва, сілаю забіраюць моладзь у свае банды. А ўдзень прыяжджаюць немцы, арыштоўваюць тых, каго не зачапілі бальшавіцкія "мсьціўцы", выводзячы за вёску, растрэльваюць. І страхотлівае жыцьцё пачалося на вёсцы. Няма супакою ні ўдзень, ні ўначы.



Захваляваўся фронт. Адкаціліся немцы на захад, і зноў зьявіліся чырвоныя маскалі, а зь імі і іхны драпежны "Чорны Воран". Дзесяткі тысяч лепшых сыноў і дачок - краса і гонар беларускага народу - растрэляны, сотні тысяч, высьцілаючы безьлічча трупаў далёкія шляхі, павандравалі ў Казахстан, у Сібір, у Калыму. Хто змог, із зброяй у руках знайшоў сабе прытулак у лесе. А сярод іх і яна, Настулька. Навука, каханьне абарвалася.

— Маладосьць!... Маладосьць!... абрабаваная... загубленая...

## III

Раптам паблізу хруснуў валежнік. Жанчына здрыганулася і ператварылася ў слых. Праз некалькі хвілін на палянку вынырнулі дзьве постаці. Трымаючы стрэльбу напагатове, партызан вёў да вогнішча забруджанага гразёю, акрываўленага чырвонага жаўнера. Той пакорліва рухаўся наперад, часад-часу адводзячы недаверлівым позіркам раскінутых наўкола вогнішча партызанаў.

—Пане, карнач, — выгукнуў вартавы, — дазвольце далажыць...

Цішэй ты, чорт, — агрызнуўся карнач, — паказваючы на атамана. — Хвілінкі не дасі адпачыць.

Але атаман аб адпачынку й ня думаў. Заплюшчыўшы вочы, ён абмяркоўваў плян сьмелага нападу на міліцэйскі дом ды вызваленьня арыштаваных. Прыход варты перарваў яго думкі.

— Што здарылася?

— Папаўся чырвоны лейценант. Прабіраўся ў лес. Увесь у крыві. Кажа: ішоў да нас.

— Давай сюды.

Атаман усхапіўся. Пальцы моцна сьціснулі наган, а вочы так і ўпіліся ў палоннага.

— Што маеш сказаць?

— Прышоў у партызаны.

Словы гэтыя ня выклікалі ў атамана асаблівага подзіву, аднак у ваччу бліснуў недаверлівы агоньчык: ці ня са сьпецзаданьнем?

— Хто ты і чаму сюды прышоў?

— Дазвольце прысесьці, — і цяжка апусьціўся на зямлю.

Жанчына прыслухалася.

Лейтэнант пачаў. Гаварыў ціха і толькі некаторыя словы даляталі да яе. Кончыў.

— А-а-а, так... зьдзіўлена працягнуў атаман, нахмурыўшы бровы. — Арыштавалі Настульчыных бацькоў?

Пачуўшы сваё імя, жанчына ўскінула вачыма, і лёгкі крык вырваўся з яе пабялелых вуснаў. Яна пазнала гэтага чалавека. У падзёртай вопратцы, акрываўлены, але гэта ён. Гэ-э-та ё-ён, — ледзь ня крыкнула яна, — ё-ё-ён!...

(Канец будзе)



 



АЛЕСЬ ЗМАГАР

## ТЫ БУДЗЕШ ЖЫЦЬ

Спусьціла ноч на зямлю чорны полаг.
Танок сьняжынкі за вакном снуюць.
А мне... Душу стрывожыў шэры морак,
Крывавіць сэрца... Не магу заснуць.

Заплюшчу вочы. Скрозь павек я бачу
Цябе, сынок. Крычыш: та—та!... пільнуй!...
І часта дышаш подыхам гарачым,
Раскідаў ручкі, коўдрачку сапхнуў.

Гарыць твой лобік, тварык палыхае.
Шавеляць вусны: Божа!... я адзін...
А колькі суму з вочак пазірае.
Мой любы, родны, дарагі мой сын!

Вось ручку кволую узьняў ты на хвіліну,
Пытаеш позіркам: — Дзе тата? Дзе?
Мой родны тата, ты сынка ня кінеш!
Дасі ратунак хвораму ў бядзе?

— Ня плач, сынок! Адкінь трывогу, роспач!
Мінае ноч, а з ранкам дзень бяжыць.
Жыцьцё крыніцаю наўкол цябе палошча.
Ты не памрэш. Сынок! Ты будзеш жыць!

1 лютага 1960 г.



Я. ЛЯШЧЫНА.

## КАМЭДЫЯ Л. ВІРНІ ''ХТО-Ж ПАКЛЁПНІК?''

Камэдыя — рэдкі госьць на балонках падсавецкіх беларускіх часапісаў. Прычына гэтага — "непапулярнасьць", далікатна кажучы, камэды ў камуністычных верхаводаў. Камэдыя мусіць штосьці высьмейваць, а ў "бясклясавым" сацыялістычным грамадзстве, кіраваным камуністычнай элітай, гэтак шмат да высьмейваньня, што прыганятыя ад сацыялістычнага рэалізму ня могуць дазволіць драматургам размахнуцца, як кажуць, на ўсю сілу: засьмяяцца так, каб некаму плакаць захацелася. Таму і ня дзіва, што ў "Полымі", органе саюзу пісьменьнікаў БССР, за 1959 год была надрукавана ўсяго адна сатырычная камэдыя "Чортаў тузін" Пятра Дудо ды ў апошнім 12 нумары таго-ж "Полымя" невялічкая камэдыя "Хто-ж паклёпнік?" Л. Вірні. На гэтай апошняй мы хочам крыху спыніцца.

Як драматычны твор ды яшчэ камэдыйнага характару, "Хто-ж паклёпнік?" ніякай цаны і цікавасьці ня мае. Яго нават і камэдыяй назваць нельга, бо-ж вельмі мала ў ім сьмешнага, камэдыйнага. Цікавіць нас тэты твор сваім зьместам.

Як мы зазначылі вышэй, камуністычныя верхаводы баяцца выстаўляць сябе з адмоўнага боку. Нам ня ведама ніводнай п'есы, дзе-б адмоўным гэроем быў камуніст. А вось у "Хто-ж паклёпнік?" — маем. Праўда, аўтар нідзе на працягу ўсяго твору не заікнецца, што Барскі — галоўны гэрой п'есы — зьяўляецца камуністам, але што Барскі камуніст, гаворыць наступнае: 1) Барскі — кіраўнік канторы. Гэта адказная пасада. Беспартыйнаму залесьці так высока немагчыма. 2) У другой дзеі (у аўтара напісана на "общепонятном" — карціна) мы сустракаем Барскага ў габінэце сакратара райкому партыі Кочэтава (прозьвішча "общепонятное"). Кочэтаў аднаасабова судзіць Барскага, здымае з працы і накіроўвае на працу на вытворчасьць звычайным рабочым. Вядома, што беспартыйнымі кадрамі сакратары райкомаў партыі не распараджаюцца. Яны могуць "рэкамэндаваць" той ці іншай арганізацыі прызначыць, або звольніць тую ці іншую асобу, але непасрэдна займацца беспартыйнымі кадрамі, як гэта мы бачым з Барскім, яны ня могуць.



З гэтага апошняга прыкладу мы бачым, што Л. Вірня вывеў на дзеннае сьвятло аднаго з барынаў-камуністаў. Адно прозьвішча чаго варта — Барскі!... Бар, барын... Імя гэтага барына ні то польскае, ні то нямецкае — Эдуард. А хто ён па-бацьку — цяжка і разабрацца: Фларыянавіч... Інтэрнацыянальны, можна сказаць, тып камуніста.

І вось гэты зборны тып, Барскі Фларыянавіч, — няпісьменная, але ня дурная асоба, кіруе канторай. Яму падпарадкуюцца дырэктары фабрык, заводаў і г. д. Ён мае сваю сакратарку Тамару, памочніка Ляпёшкіна, прыбіральшчыцу цётку Пашу, мяккае крэсла — усё, што патрэбна для камуніста-барына на парозе бясклясавага камуністычнага грамадзтва. Барскі сам нічагусенькі ня робіць: зводкі ў вышэйшыя арганізацыі піша Ляпёшкін, Барскі толькі ставіць пад імі свае загагулінкі; даклады, з якімі любіць выступаць Барскі, піша таксама Ляпёшкін. Барскі людзей ня ведае, ня цікавіцца людзьмі. Нават прозьвішча свае прыбіральшчыцы цёткі Пашы ня ведае... Адным словам, тыповы камуністычны выпіхач-тупіцца, якіх у хрушчоўскай імпэрыі хоць адбаўляй і якіх на саракавым годзе савецкай улады няма кім замяніць.

Усё ў Барскага ішло гладка да таго часу, пакуль райком партыі ні "параіў" яму ўзяць у памочніцы камуністку Сураву (разумей: суровую). Гэтая Сурава, як высьвятляецца, напісала данос на Барскага ў вышэйшыя арганізацыі, за што вырасла ў вачох райкому. Але Барскі сам, напэўна, "зьеў зубы" на даносах і паклёпах, пакуль дабраўся да мяккага крэсла, а таму ад "памоцніцтва" Туравай Зінаіды Сяргееўны адмахнуўся. Тым часам з Менску тэрміновай поштай на імя Барскага прыходзіць ліст-данос Суравай на таго-ж Барскага з паметкай "Для прыняцьця тэрміновых мер". Подпіс на лісьце-даносе адрэзаны. (Цікавы мэтад працы! — Я. Л.). У даносе на сябе Барскі чытае: "Нашы супрацоўнікі пабывалі на спэктаклі 'Крылы' Карнейчука. І ўсе прышлі да высновы, што т. Барскі — гэта сапраўдны Драмлюга (гэрой "Крылаў"), але толькі не ў такім маштабе". І далей: "Барскі — бюрократ... Барскі — шпаргалкін... бяздарнасьць..." і г. д. Барскі падазрае ў даносе свайго памочніка Ляпёшкіна. Ён выклікае Ляпёшкіна да сябе і рэжа апошняму камуністычную праўду ў вочы. Ляпёшкін адмаўляецца. Тады Барскі дае яму ліст-данос. Ляпёшкін, разгледзеўшы ліст, кажа, што гэта работа Суравай. "І стыль і почарк паважанай Зінаіды Сяргееўны".

Апрача даносу Суравай на Барскага, ёсьць і другія сыгналы. Аб гэтым таямніча паведамляе Барскаму Ляпёшкін: "Учора Сярдобны па даручэньню парткому цікавіўся матэрыяламі, па якіх я пісаў Вашу справаздачу, і ўсімі Вашымі дакладамі". Барскі, каб выкруціцца з цяжкога становішча, каб неяк даказаць начальству сваю правату, задумаў выступіць з вялікім дакладам: даць перцу ўсім лодырам і паклёпнікам. Напісаць тэкст дакладу Барскі даручае Ляпёшкіну: "Падрыхтаваць даклад гэтак на старонак 35 - 40... Ды не якой-небудзь сухой канцылярскай мовай, жывой, чалавечай. І канкрэтных людзей і крытыкі, крытыкі давай паболей, т. Ляпёшкін!"

Даклад у вызначаны тэрмін Ляпёшкін напісаў. Барскі, як і заўсёду, не праверыўшы, прачытаў даклад на сходзе: даў перцу тым, хто трымае сябе няпрыстойна на вытварчасьці і нават у сям'і; дасталося на арэхі паклёпнікам усякім. Бацьку Тамары, сваёй сакратаркі, старога кадравіка, сумленнага работніка назваў горкім п'яніцай, разбэшчаным чалавекам, які сваю жонку біў, а потым кінуў, назваў апошнім абібокам і гультаем. ("Ой, які жах, які жах! Не перажыве бацька гэтую ганьбу. Вось ужо тры дні з пасьцелі не ўстае," — плачучы скардзіцца Тамара сакратару райкома Кочэтаву). Дасталося і сыну цёткі Пашы, студэнту будаўлянага інстытуту. Барскі ня ведаў нават, што Пагуда зьяўляецца сынам яго прыбіральшчыцы цёткі Пашы, ня ведаў, што Пагуда даўно на вытворчасьці не пра-

 

цуе, а вучыцца; абазваў яго адсталым рабочым,які не наведвае вячэрнія курсы кваліфікацыі...

Аўтар не падае нам болей прыкладаў, як Барскі даводзіў сваіх падлеглых да таго, што яны не ўставалі з пасьцелі. А іх, гэтых прыкладаў, напэўна, было шмат. Ды не такія бязьвінныя, на якіх Л. Вірня сплятаеабвінавачваньні Барскаму. Вірня не падае нам ніводнай скаргі працоўных, на якія Барскі не рэагаваў. Аб гэтым толькі мімаходам упамінаецца ў п'есе. Калі партыйныя органы вымушаны былі прыцягнуць да адказнасьці свайго папіхача, на гэта былі болей паважныя прычыны,а ня толькі паклёпы на працоўных ды нерэагаваньне на іх скаргі. Партыя ня вельмі дбае аб працоўных. Яна дбае аб сваю моц і непахіснасьць, аб сваю магутнасьць, аўтарытэт. Справа не ў паклёпніцтве і ашуканстве, а ў непаслухмянасьці, у ігнараваньні партыйных рэкамэндацыяў. Кочэтаў, сакратар райкому партыі, аднаасабова судзячы Барскага, перш за ўсё вінаваціць яго за няўменьне "ацэньваць кадры". Барскі, як бачыце, не ацаніў Сураву, якую яму рэкамэндаваў райком у памочніцы. Сурава, выпіхачка партыі, зьяўляецца галоўным арэхам, якім падавіўся Барскі. Яна-ж, па волі таго-ж Кочэтава, села ў дырэктарскае крэсла Барскага, а апошні з сваім халуём Ляпёшкіным пашлі на вытворчасьць звычайнымі работнікамі.

Як бачым, нічога сьмешнага нам, а ў першую чаргу падсавецкім чытачом і гледачом, Вірня не паказаў. Падсавецкія нявольнікі ў кожнай установе спатыкаюцца з Барскімі, Суравымі ды іншымі бальшавіцкімі барынамі і барынямі. І ім не да сьмеху. Але п'еса Вірні каштоўная для нас, як дакумант, як сьведчаньне зьдзеку камуністычных бюракратаў над паднявольным народам. На зьмену аднаму бюракрату прыходзіць другі, але болей суровы. Кіруючыя партыйныя арганізацыі абсаджаны расійцамі. А народ плача, людзі не ўстаюць з пасьцелі.

Вось што выглядае з-за заслоны, расхіленай перад намі Л. Вірняй. А вывад напрашваецца сам сабою: пакуль ня прыдзе Народны Справядлівы Судзьдзя і не адашле ўсіх Кочэтавых з іх прыплодам да асновапаложнікаў найдасканалейшай машыны зьдзеку — Маркса, Леніна і Сталіна, — да таго часу народ будзе плакаць і не ўставаць з пасьцелі.



## НА 500-ТЫ НУМАР "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ"

Сёлета Вялікаднем, на 13-тым годзе перыядычнага існаваньня, пабачыў сьвет чарговы 500-ты нумар "Бацькаўшчыны". Для беларускага эміграцыйнага тыднёвіка гэта аграмаднае, поўнасьцю заслугоўваючае на юбілейнае адзначэньне, асягненьне.

У парадку аб'ектыўнага журналізму трэба прызнаць, што 500 нумароў "Бацькаўшчыны" — гэта ў эміграцыйных абставінах аграмадны высілак ейнага творчага калектыву, гэта вялікага значэньня нацыянальнапалітычная й грамадзкая работа.

Выдадзеныя "Бацькаўшчынай" творы беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў, часапіс для дзяцей "Каласкі", літаратурныя дадаткі, асьвятленьне палажэньня беларускага народу й падзеяў у акупаванай Беларусі — гэта бясспрэчна вялікія асягненьні выдавецтва, каторымі "Бацькаўшчына" зусім слушна можа ганарыцца й падстаўна спадзявацца на прызнаньне і ўдзячнасьць беларускага грамадзтва як на эміграцыі, так і ў паняволенай бальшавікамі Беларусі.

Гэта тыя бляскі выдавецтва, якія даюць права "Бацькаўшчыне" на неапошняе месца ў гісторыі нацыянальнага беларускага руху.

На глыбокі жаль, ёсьць і паважныя цені



на "Бацькаўшчыне", якія бяз сумніву і даволі моцна гэтае месца ў гісторыі беларускага руху падважваюць ды зусім пярэчаць некаторым ейным прэтэнсыям, выказаным у рэдакцыйным юбілейным артыкуле.

Вось-жа, элемэнтарная праўда наказвае станоўка запярэчыць цьверджаньню "Бацькаўшчыны" аб тым, што "...вакол "Бацькаўшчыны" згуртаваліся... найбольш ідэйныя, адважныя, станоўчыя й актыўныя элемэнты нашае эміграцыі..." Вакол яе гуртаваліся, як у жыцьці заўсёды бывае, як ідэйныя так і апартуністычныя элемэнты беларускай эміграцыі, якія стварылі сабе пры ёй або праз яе базу для асабістага існаваньня.

Няпраўдай ёсьць, таксама, і другое цьверджаньне, што "Бацькаўшчына" толькі адна сталася ворганам цэнтральным і агульнаэмігранцкім і такім-жа астаецца й да сяньняшняга дня..." "Бацькаўшчына" ніколі ня была й па сяньняшні дзень не зьяўляецца ані цэнтральным ані тымбалей агульнаэміграцкім беларускім ворганам. Цьвердзячы гэта, яна прымітывізуе й зьмяншае беларускі рух на эміграцыі ды спрычыняе беларускай справе неапошняга значэньня шкоду. Праўдай ёсьць, і гэта дасканала знае ўся беларуская грамадзкасьць на эміграцыі, што "Бацькаўшчына" была й асталася па сяньняшні дзень ворганам толькі аднае й вылучна аднае групоўкі беларускае эміграцыі. І гэтага стану рэчаў ня зьменіць і ня можа зьмяніць ніякая матэматычная дыялектыка накшталт стаўляньня рэдактарамі "Бацькаўшчыны" знаку роўнасьці між паняцьцем групы Абрамчыка й паняцьцем агулу беларускага грамадзтва за межамі Беларусі. Як частка ня ёсьць цэласьцю, так група сп. Абрамчыка на ёсьць і ня можа быць агулам беларускае эміграцыі.

Пачынаючы няслаўным артыкулам аб г. зв. калябарантах, хвальшаванымі г.зв. біяграфіямі сп. Абрамчыка, сп. Адамовіча, вернападданчымі лістамі сваяму прэзыдэнту, някультурнымі й часта правакацыйнымі артыкуламі аб сваіх палітычных праціўніках, "Бацькаўшчына" выразна, так сказаць "урбі эт орбі" выказала свой чыста групавы твар. І ў гэтым нічога, за выняткам частай някультурнасьці ў палеміцы із праціўнікамі, спэцыяльна дрэннага няма. Кажнае выдавецтва мае права мець свае сымпатыі ці антыпатыі, быць ворганам тае ці іншае палітычнае партыі ці групы. Дрэнным, у дадзеным выпадку, зьяўляецца толькі тое, што, будучы групавым ворганам, "Бацькаўшчына" чамусьці стыдаецца да гэтага прызнацца і ўводзіць у блуд сваіх, у першую чаргу небеларускіх, чытачоў.

Вельмі дрэнным з агульна-беларускага пункту гледжаньня фактам, цалком выплываючым із групавага характару гэтага выдавецтва, зьяўляецца тое, што да другой паловы 1959 г. "Бацькаўшчына" належыла была камплетную друкарскую заслону на ўсё беларускае, што дзеялася вонкі групы сп. Абрамчыка ўваўсіх аспэктах грамадзкага жыцьця, ня друкуючы ня толькі хронікі із арганізацыйнага жыцьця іншых беларускіх напрамкаў, але нават не зьмяшчаючы дасыланых спраставаньняў і гэтым самым гвалцячы элемэнтарныя асновы журналізму наагул, а журналістычную этыку ў прыватнасьці.

Найважнейшым заданьнем прэсы ў культурным і дэмакратычным грамадзтве ёсьць, у першую чаргу, аб'ектыўная інфармацыя. Трэба із жалем сказаць, што "Бацькаўшчына", калі справа тычыцца нутранога адрэсу беларускага грамадзкага жыцьця на эміграцыі, гэтага заданьня ня выканала й далёка ня выконвае яго й сяньня. Ейныя цьверджаньні, выказаныя ў юбілейным артыкуле, быццам: "... на бачынах "Бацькаўшчыны" зафіксаваўся за ўвесь гэты час найбольш поўны дакумантальны матэрыял, небходны для азнаямленьня з жыцьцём і дзейнасьцю кажнага беларускага эміграцыйнага асяродзьдзя ды ўсяе эміграцыі ў цэлым", разьмінаюцца із запраўднасьцю, зьяўляюцца безпадстаўнымі й шкоднымі. Шкоднымі яны зьяўляюцца з тае простае прычыны, што, будучым дасьледчыкам гэтага пытаньня, неабазнаным із сяньняшняй і ўчарашняй

рэчаістасьцю, яны даюць хвальшывае ўяўленьне аб дынаміцы беларускага руху на эміграцыі, значна памяншаючы разьмер ягонага высілку й асягненьняў.

Успамінаючы аб гэтым, мы робім гэта з вялікім нясмакам не дзеля зайздрасьці, рэваншу ці тэндэнцыі зьмяншэньня заслугаў "Бацькаўшчыны" ці тымбалей зрабленьня прыкрасьці ейным рэдактарам, а толькі й вылучна дзеля аб'ектыўнага зафіксаваньня праўды для будучых дасьледчыкаў беларускага пытаньня на эміграцыі, праўды, выкрыўлянай "Бацькаўшчынай" у парыве хвальшывага груповага "патрыятызму" із крыўдай і шкодаю для беларускай справы.

Перасылаючы Рэдакцыйнаму Калектыву й Выдавецтву "Бацькаўшчыны" шчыры журналістычны прывет ад нашага маладога выдавецтва, хацелася-б выразіць пажаданьне, каб "Бацькаўшчына" прынамсі ў інфармацыйнай частцы, зыйшла із груповай сьцежкі на шырокі шлях запраўднага й аб'ектыўнага журналізму. Гэта выйдзе і ёй і Беларускай Справе толькі на карысьць.

РЭД-КАЛЕГІЯ

# ХРОНІКА

### ВЫСТУПЛЕНЬНІ У КАНГРЭСЕ У ВАШЫНГТОНЕ У СПРАВЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

У абароне акупаванага і ўцісканага Савецкай Расіяй беларускага народу і з падтрымкай яго імкненьняў да дзяржаўнае незалежнасьці, выступалі сёлета з прамовамі ў Вашынґтоне:

1. на паседжаньні Сэнату дня 28 сакавіка наступныя сэнатары: Кэннэт Б. Кітінґ і Франк Я. Ляўшэ;

2. на паседжаньні Палаты Рэпрэзэнтантаў выступалі наступныя кангрэсмэны: дня 1 сакавіка — Леонард Фарбстэін, дня 8 сакавіка — Эдвард Я. Дэрвінскі, дня 9 сакавіка — Пётра В. Родіно Мал., дня 16 сакавіка — Эміліо К. Доддаріо, дня 17 сакавіка — Віктар Л. Анфусо, дня 24 сакавіка — Абрагам Я. Мультэр, Робэрт Р. Барры, Самуэль Н. Фрідэль, Вільям Я. Грін, Мал., Джан Г. Рай, дня 29 сакавіка — Альвін М. Бэнтлі, Джан Д. Дінгэлл, Дональд Я. Ірвін, Самуэль С. Страттон.

---

Кангрэсман Абрагам Я. Мультэр, па захадах Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, апублікаваў адумысловы Кангрэсавы Рэкорд, прысьвечаны 42-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

У сувязі з Тыднем Паняволеных Народаў, прагалошаным ужо другі раз прэзыдэнтам Д. Айзэнгаўэрам і Кангрэсам, 24 ліпеня ў Нью Ёрку, у залі Мэнгэтэн Сэнтэр адбыўся вялікі мітынґ, удзел у якім прымалі беларускія арганізацыі, якія ўваходзяць у Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі. У мастацкай частцы беларускі жаночы ансамбль пад кіраўніцтвам сп. А. Еўца і танцавальны гурток Саюзу Беларуска-Амэрыканскай Моладзі з Саўт Рывэр паказалі сябе вельмі добра.

Зараз прабывае ў З. Ш. А. прэзыдэнт Б.Ц.Р. праф. Р. Астроўскі. Сп. Прэзыдэнт быў спатканы ў Ньюёрскім порце сябрамі і прыхільнікамі Б.Ц.Р. і адразу наведаў самы большы беларускі асяродак у Амэрыцы — Саўт Рывэр, дзе вёў перагаворы з сябрамі і прыхільнікамі Б.Ц.Р. і з беларускім актывам адносна скліканьня чарговай сэсыі Б.Ц.Р.

Беларуская грамада, як заўсёды, вітала сп. Прэзыдэнта вельмі горача. У часьць сп. Прэзыдэнта быў зладжаны урачысты банкет, на якім прысутнічала каля 200 асобаў. Ад імя прысутных прывітаў сп. Прэзыдэнта тостмайстар сп. Б. Шчорс. Пасьля, з даўжэйшай прамовай, выступіў сам Прэзыдэнт. Банкет прайшоў у мілай сяброўскай атмасфэры.

Беларускі Аматарскі Драматычны Гурток у Саўт Рывэры пад мастацкім кіраўніцтвам артысткі Ірэны Цупрык-Жылінскай адыграў дня 24 красавіка ў залі Шакаў, Саўт Рывэр, п'есу Я. Купалы "Паўлінка". Паасобныя ролі выконвалі: Сьцяпана Крыніцкага — Міхась Сенька; Альжбеты — Вера Коўш; Паўлінкі — Натальля Кіркевіч; Пранцыся Пустарэвіча — Ігар Шчорс; Агаты — Жэня Цярпіцкая; Адольфа Быкоўскага — Лявон Шурак; Якіма Сарокі — Міхась Палюховіч; моладзь — Таіса Дульская, Жэня Дульская, Ліда Мірановіч, Вера Спасенная, Мікалай Ігнатэнко, Сяргей Касьцюк; музыканты — Геранім Хмура і Пятрусь Казакоў.

Пастаноўка прайшла добра. Перапоўненая валя гучнымі воплескамі ўзнагародзіла ігру артыстаў-аматараў, а спадарыні І. Цупрык ад беларускай грамадзкасьці быў паднесены букет красак.

13 ліпеня адбыўся шлюб ведамай сяброўкі Саюзу Беларуска-Амэрыканскай Моладзі і Беларускага Студэнцкага Аб'еднаньня сп. Валі Вайцяхоўскай з Эвэрэтам Ковэт. Шлюб давалі а. протопрэсьвіцер М. Лапіцкі і протодзіякан С. Коўш у Беларускай Праваслаўнай Царкве імя Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэр. У залі Шакаў адбылося вясельнае прыняцьце, на якім прысутнічала каля 300 асоб. Маладой пары жадаем доўгага і шчасьлівага жыцьця і плённай працы як на грамадзкай, так і на асабістай ніве.

Рэдакцыя і адміністрацыя "Беларускай Думкі"

У Нью Ёрку ўжо адкрыты другі мэдычны беларускі пункт: першы — хірургічна-ґінэкалягічны сп. Др. М. Шчорса, 110–07 66th Road, Forest Hills 75, New York; другі — дэнтыстычны сп. Др. Ул. Красоўскага: 295 Central Park West, at 90 Street, New York.

Рэдакцыйная Калегія: Л. Галяк, А. Даніловіч (галоўны рэдактар), М. Кавыль, Інж. І. Касяк, пратапр. а. М. Лапіцкі, Д-р М. Шчорс.

Адрас Рэдакцыі: A. Danilovich, 111 So. Fourth Ave., Highland Park, N. J.

Выдае: Беларускае Выдавецкае Таварыства ў ЗША.

PRINTED BY THE WHITERUTHENIAN PRESS, CENTRAL SQUARE, N. Y.